Сяргей
# ДАВІДОВІЧ

*Вершы*
*Паэмы*

Том 9

Мінск
Выдавец А.М. Вараксін
2018

УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 9. Вершы. Паэмы. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : А. М. Вараксін, 2018.— 420 с., іл.

ISBN 978-985-7186-51-8.

У дзявяты том увайшла толькі паэзія Сяргея Давідовіча — вершы і паэмы, напісаныя ў перыяд 2017—2018 гадоў. Творы адметныя філасофскай і псіхалагічнай заглыбленасцю, вобразнасцю і актуальнасцю.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7186-51-8**

## Ад зямлі і ад бацькоў

Я не прыдумаў новых
                        слоў такіх,
(Не кожны можа звацца майстрам слова)
Звярнуў увагу каб чытач на іх
І захацеў бы прачытаць нанова.

Мяне і ў іншым
                        не заўважыў Бог,
А гэта для любога творца дрэнна —
Й вядомых слоў я прыручыць не змог,
Хаця да іх — з павагаю нязменна.

Да мовы нашай і
                        да слоў любоў,
Мой лёс, а не прынука —
Вершапраца.
Я слоўмі ад зямлі і ад бацькоў
І карыстаўся й буду карыстацца.

## Атрута

Жыццё — вялікі цуд,
жыццё — вялізны боль,
І як тут разабраць,
чаго ў ім будзе болей?
Напэўна, ўсё-ткі ёсць
ад некага кантроль —
Спачатку сонца больш,
а потым — болю.

Жыццё — духоўны ўзлёт,
жыццё — падзенне ў грэх.
Тут бездані,
Вышыні,
Далі,
Шыры.
Падзенне і узлёт…
Што ніз для нас?
Што — верх?
Арыентыры, дызарыентыры?

Жыццё — маленькі век,
жыццё — вялікі міг,
З якіх сузор'е свеціцца
Над светам.
Жыццё — не для злачынстваў,
жыццё — не для інтрыг —
І ўсё ж яно атручваецца гэтым.

## Жыве і будзе жыць!

Ёй Беларусь заўжды была,
　　　　як родная матуля,
Яна ж для Беларусі век
　　　　няроднаю была.
І толькі шчыры беларус
　　　　яе да сэрца туліць,
І з несвядомасці яны
　　　　імкнуцца да святла.

І толькі шчыры беларус,
　　　　а іх усё ж нямала,
Шануюць тую, без якой
　　　　дзяржавы б не было,
Бароняць тую, што асоб
　　　　багата ўзгадавала,
І любяць чую, што надзею
　　　　ўзня́ла на крыло.

Нічога штучнага спрадвеку
　　　　не было ў прыродзе,
І нават рэчка ад прымус
　　　　наўспят не пабяжыць.
Таму насуперак такой,
　　　　дзяржаўнай прахалодзе,
І мова беларуская
　　　　жыве і будзе жыць.

## Прагнаны пегас

Пегас надакучыў паэту —
Выгульвай,
Вычэсвай,
Кармі.
Сказаў ён —
Не веру ў прымету,
Ў яго дапамогу — ні-ні.

Я сам і на талент багаты,
Пішу без яго, на самрэч. —
Пегас,
Яго сябар крылаты,
Прагнаны паэтам быў прэч.

Прагнаны
Няўдзячнасцю чорнай.
Забыўся паэт на таго,
Хто ноччу
загадкавай, зорнай,
Узнёс над зямлёю яго.

Як раніцай
Звонкай, вясенняй,
Калі прачынаўся ўвесь свет,
Узняў
Да вышыняў натхнення,
Дзе родзіцца кожны паэт.

Пегас
Для паэта стаў лішнім…
Цяпер жа паэт сапраўды,
Уносіў нязграбныя рыфмы
Й нязграбныя творы
«З вады».

Ён вобразнасць страціў
І ўдачу,
І цемру спаткаў сярод дня,
Змяніўшы бяздумна на клячу
Крылатага сябра каня.

Калісьці крылатыя вершы,
Цяпер у шуфлядзе,
Як хлам.
І ён, не апошні й не першы,
Нібыта ў шуфлядзе і сам.

Магчыма,
Уцяміць ён з часам,
Што вершы — не сродак забаў,
Што колісь прагнаў
Не Пегаса,
А з сэрца натхненне прагнаў.

## Час апошні

*Светлай памяці брата Косціка*

Што ажывала прад вачамі брата
У час апошні перад вечным сном?..
Маленства?
Голь?
Карпілаўская хата
З асінай трапяткою за акном?

Бацькі?
Браты?
Свая сям'я?
Каханне?
Паэзія ў юнацкія гады?
Грыбная старасць?
Рыбацтва?
Паляванне?
Ці боль ад адыходу назаўжды?

Ён паміраў без скаргаў,
У бязгуччы,
І чуў, напэўна, памінальны звон…
Мне на яго глядзець было балюча,
Хоць пра «балюча»
Ведаў толькі ён…

## Слухаць ці распавядаць?

Што лепей —
Слухаць ці распавядаць?
Тут два пытанні ёсць:
Каго?
Каму?
Што лепей —
Атрымаць альбо аддаць?
Карысці больш з чаго
Жыццю майму?

З маленства
Многа чуе кожны з нас
Праз калыханку,
Ад гадоў сівых.
Да нас імкнуцца
праз глыбінны час
І мудрасць продкаў,
і памылкі іх.

Не толькі важна слухаць
Але й чуць,
Як кожны час
І плача, і пяе.
З мінулага і будучыню ткуць,
Ўплятаючы
Сучаснасць у яе.

Таму люблю я слухаць
Мудрасць дзён,
Сучасных дзён
І тых, што адгулі.

І велічнага неба парасон,
Й шматвекавы,
Былінны сказ зямлі.

Люблю я слухаць…
А распавядаць?
Лягчэй мне ў творах,
                спавядацца ім.
Сваю часцінку вопыту аддаць
Я проста абавязаны другім.

# Пошук

Апісваю сучаснасць
Чорнай тушшу,
Бо іншых колераў
        не бачу на зямлі.
З бязрадасным
Суіснаваць я мушу,
Калі ўжо радасці ў нябыт сыйшлі.

Душа без ласкі —
        побач з неласкавым,
Без крылаў творчасць —
        творчасць не мая.
Маўчаннем размаўляю з нецікавым,
З няшчырасцю —
Пра шчырасць мару я.

Быў у сяродку,
        апынуўся з краю,
І ўсё такі
Не звузіўся мой свет.
Я не стаю —
Шукаю і шукаю,
Шукаю, дзе і ў чым
        жыцця сакрэт?

# Аптымізм

Жыццю не абмінуць варожасць смерці
І гэта —
Многіх прыжыццёвы страх.
І ўсё ж
У бессмяротнасць душаў верце,
Душа — ў святую вечнасць,
Цела — ў прах.

Душа —
Наш скрыты код пасляжыццёвы,
У ім —
Наш генетычны шыфр-сакрэт.
Ён, гэты код,
У нейкім часе новым
Больш дасканалы з’явіцца на свет.

Мы вернемся
У новы свет калісьці,
Як з выраю вясною жураўлі.
Мы вернемся —
І зробім шмат карысці
Жыццю,
Дзяржаве,
Людзям і зямлі.

## Асуджаны

Ледзь з’явіцца на свет дзіця,
Адразу ў плач,
Да чырвані сінюшнай,
            заходзіцца ажно.

Сіпіць,
Хрыпіць,
Крычыць,
Нібыта ў лузе драч,
Хоць вушы затыкай.
            З чаго б гэта яно?

Народзіны — і крык…
Чаму б не спаць? Чаму?
Спавітае, яно гвалтуе —
            верць ды верць.
Прырода альбо Бог
            падказваюць яму —
Хто нарадзіўся, той
            асуджаны на смерць.

## Уцехаў цытадэлі

Начныя клубы…
Казіно…
Уцехаў блудных цытадэлі,
Тусовак бездухоўных дно —
Ад прадпрымальніцтва бардэлі.

Ці можна што
прыдумаць горш?
Што гэта так —
Няма сакрэта,
Праваахоўнікам тым больш,
Дзяржава ведае пра гэта.

Начныя клубы — для начэй,
Хто там у іх?
І што там плодзяць?
Разбэшчваць душы ўсё ж лягчэй,
Чым у духоўны свет уводзіць.

## Святочнасць дня

Пасля вайны нязменна,
Ў час выхадного дня,
Да сёмага калена
Збіралася радня.

І ладзілі гулянкі
Ў спякоту, ў холад сцюж
Зусім не дзеля п’янкі,
А для яднання душ.

Ў вайну пагаравалі,
Глынулі ўсе бяды,
Таму засумавалі
Па святах без нуды.

Дзень гэты — годны, варты,
Святочна поўніў дом.
Гармонік, песні, жарты,
Гучалі за сталом.

І чарка, паміж справай,
Ішла навесяле,
І ўсё ж была цікавай
Закуска на стале.

Тады — зімой і летам,
На ўсіх сталах — камса.
Была яшчэ між гэтым,
У думках каўбаса.

З капустаю талеркі
Стаялі гэтым днём.
Закусвалі гарэлку
Й чырвоным кісялём.

Крухмал не шкадавалі,
Каб ён мацней загус.
Яго мы смакавалі
З скарынкаю ўпрыкус.

О, як жа іх цаніла
Такія дні радня.
І да сябе туліла
Людзей святочнасць дня.



***1950 г. Мая радня (не ўся)***

## Куды дарога?

Жыцця дарога, і мая ў тым ліку,
Гразь пад нагамі, ні пялёсткі роз.
Чым па жыцці далей,
далей яна ад шыку,
І тым цяжэй цягнуць нядолі воз.

Ў палоне я рэалій, а не чутак,
Адольваю то хібы, то шашу.
Мяняць ледзь паспяваю
разшмётаны абутак
Й падтрымліваць надзеямі душу.

О колькі засталося за спіной пакутаў,
Сканалых мар і радасцей без крыл.
І падаў, часам, я,
нібыта конь раскуты,
І паднімаўся ўсё ж з апошніх сіл.

Я азірнуўся і агледзеў строга
Адоленае — страты, боль, нуду.
Няўжо такая ў рай
вядзе мяне дарога,
А калі не — куды тады іду?

## Вось гэта справа!

Хацеў бы стаць я Конюхавым?
Не!
Двум Конюхавым будзе не цікава.
Самім сабою хочацца быць мне,
Дзе ён не быў, пабыць —
Вось гэта справа!

Ці там дзе быў ён,
штось адкрыць я змог —
Другі Шлях Млечны у бяздонні ночы,
Каб ён здзівіўся ўголас:
— Мой ты Бог!
Куды мае тады глядзелі вочы?

Ці вытрымаць такі
на мужнасць тост,
Які у марах дзёрзка я смакую:
З павязкай на вачах на Эверэст
Ўзыйсці без падстрахоўкі, усляпую.

Ці ўсім сказаць: — На Марсе каляя
Ад ног маіх працягвае плытацца…
І гэта б быў не Конюхаў, а я,
Таму толькі сабой хачу застацца.

## Да пабачэння!

Лес раптоўна вырас белым гмахам —
Колькі снегу на яго плячах!
Толькі б утрымаўся
з голляў дах —
Пад яго усё ж іду са страхам.

Я уверх гляджу.
О каб я мог
Голлю памагчы хоць на мінутку.
Раптам — шусь!
Не зверху, а з-пад ног
Заяц плетануў, як снег бялюткі.

Праз хвіліну-ф-р-р! І цецярук
Даць ырца уверх
з-пад снегу мусіў.
Сеў незадаволена на сук —
Хто нахабна сон яго парушыў?

Бачу — мне не вельмі рады тут,
Тут свае шчаслівыя імгненні.
Да цябе, прыгожы белы кут,
Я вясной прыду.
Да пабачэння!

## Кантрасты

Калі твару́ ці п’ю —
начхаць на ўсе праблемы,
Не думаю зусім
пра вечны іх прыгнёт.
Са мною па жыцці
такія вось дзве тэмы —
Адна з іх цягне ўніз,
другая — на ўзлёт.

Да светлага ў жыцці
шукае кожны выйсце,
Параніўшы душу
між розных непатрэб.
Магчыма, люты голад
павінен нас пагрызці,
Каб аценілі мы,
які ён смачны, хлеб.

І цішыня цішэй
здаецца пасля тлумаў,
Здаецца лета нам
мілей пасля зімы.
Напэўна, для кантрасту і
д’ябал смерць прыдумаў,
Каб Божы дар — жыццё
мацней цанілі мы.

## Эпітафія

Апошнія гады
              мой лёс у сечку крышаць,
Ды я і сам штогод
              свой пагаршаю лёс
Баюся, што па мне
              на помніку напішуць
Не тое і не так,
              што праз жыццё я нёс.

І хоць я на зямлі
              не быў нічым прыкметны,
Ўсё ж чулі пра мяне
              хоць штосьці землякі.
Хачу я, каб па мне
              не надпіс трафарэтны,
А хтосьці прачытаў
              такія вось радкі:

«Спіць у магіле той,
              хто безаглядна смела,
З млынамі ветранымі
              вёў свой няроўны бой.
Так і пайшоў з жыцця,
              нікім не зразумелы —
Ні часам, ні людзьмі,
              ні Богам, ні сабой».

## Безкампраміснаць

Не можа быць нейтральнай паласы,
Дзе супраць догмы выступае існасць.
Супрацьстаянне іх —
На ўсе часы.
Супрацьстаянне іх —
Безкампраміснасць.

Вось так і сэрца
            творчасцю гарыць
Насуперак нятворчаму зацьменню.
Й бяскрылы чалавек супрацьстаіць
Ад веку ў век
Зямному прыцягненню.

Ад веку ў век —
На працягу́ жыцця,
Святая памяць —
            у баі суровым.
І б’ецца памяць супраць забыцця
Дакументальным сродкам,
Бронзай,
Словам.

## Што лепей?

Рэвалюцыя…
Эвалюцыя…
Ў чым больш мудрасці,
Меней страху?
Рэвалюцыя —
Штука куцая,
І сабе адсячэ хвост
З размаху.

Рэвалюцыя —
Рэч суровая,
Ад сякеры яе
Цяжка збегчы.
Рэвалюцыя —
Безгаловая,
І сабе галаву
Можа ссекчы.

І партыйнага,
Й беспартыйнага
Ўзнагародзіць
Расквашаным носам.
Колькі
Паслярэвалюцыйнага
Ў свеце смутку,
Бедламу,
Хаосу.

Эвалюцыя прагне
Ў лёсы нам —
Лепшых змен
І надзей нямала.

Эвалюцыя ж
Нашых зносінаў
Невыносна
Маруднай стала.

Дзе вы чулі
І дзе вы бачылі
Жах, якому —
Сам жах найменне.
Каб асновы
Навукі матчынай
Былі збэшчаны
Праз пакаленне?

І ўжо грубасць,
Як бруднай дзягаю,
Хрысціць душы —
Налева, направа.
Чалавечнае —
Пазаўвагаю,
Непавага другіх —
Забава.

І ўжо… доўжыць «ужо» —
Справа марная.
Ўсё радзей
Дабрыня людская.
Чалавечнае, элементарнае,
Продкаў спадчына
З нас знікае.

Чалавецтва
Ўсяго пабачыла,
Доля ўсіх пакаленняў
Ліхая.

Эвалюцыя ж
Сёння страціла
Гонар свой —
Нас назад піхае.

Рэвалюцыя…
Эвалюцыя…
Чым прад імі
Пакорліва легчы,
Можа б бруднае ў нас,
Жывучае,
Назаўжды
Ад душы адсекчы.

## Дзень і ноч

— Паэт прарок?
А што ён напрарочыў? —
Пытае колка
        у мяне сусед. —
Што новы дзень
        надыдзе пасля ночы?
Падумаеш,
Знайшоў здзівіць чым свет.

— Ах, ты дзівак! —
Усклікнуў я запальна. —
Ноч у паэта — вобраз,
        вобраз — дзень.
Паэзію ўспрымае літаральна,
Хто бачыць толькі
        свой уласны цень.

Каб цемра дню
        дарогу саступіла,
Жыццю, ў якім
        мы прагнем дзень знайсці,
Недастаткова усміхацца міла,
Да мэты трэба
        і праз ноч ісці.

## П’еса

Жыццё, як п’еса
                для аднаго акцёра,
Іграй, здаецца,
                усё і ўся уволю.
Ды не, на жаль, —
                іграў адно учора,
Было, напрыклад,
                на сцэне лёсу гора,
А сёння —
                ў камедыйную лезь ролю.

Штодзень —
                да новай ролі падрыхтоўка,
Хоць ты й галоўнай
                ролі выканаўца,
Вакол —
Віхор людзей,
Кішыць масоўка,
І ты ўжо збоку,
                на запа́снай лаўцы.

І ужо твой тэкст,
                што ты вучыў старанна,
З тваіх падмосткаў
                чытае хтосьці лоўка.
Галоўны ты,
                ды не табе пашана,
Ты адпіхнуты,
                ты — ужо масоўка.

Акцёр ты знаны,
толькі не прызнаны
У мітуслівым
Гвалт-кардыбалеце.
Чуваць у гэтым тлуме
Гарлапаны,
Наперадзе —
акцёры па анкеце.

Я сёння буду ўсё ж
у новай ролі,
Зусім не ў той,
што выканаў учора.
Сваёй я ролі
не аддам ніколі
І абыйдуся
Без паслуг суфлёраў.

## Нечаканая сустрэча

Сустрэў гадзюку чорную
у лесе нечакана,
Хоць ведаў, што сустрэну
позна альбо рана,
Бо ў свеце не адзін
я на зямлі жывы
Ёсць і ў яе пад сонцам быць правы.

Застыў я. Што рабіць?
Забіць яе ці крочыць?
Застыла і яна,
глядзіць мне пільна ў вочы,
Спрабуе прачытаць
у іх мае намеры —
Вядома ж, мала чалавеку веры.

І я падумаў тое ж,
што, на жаль, спрадвеку,
І сёння, як заўсёды,
мала веры чалавеку,
Бо чалавецтву чалавек
стварыў нямала болю,
Гадзюка ж першая
не нападзе ніколі.

І думка болем апякла
мяне ў гэты час —
Няўжо вось гэта гадзіна
больш мудрая за нас?
Адкінуў гэту думку я,
усцешыў гонар свой,
А што падумала яна,
вядома толькі ёй.

# Рэальнасць

Стварыў вясну у марах,
　　　　　але яна не грэе —
Для кожнага, відаць,
Пара свая.
Агнём міфалагічным Праметэя
Вясна ў душы маёй,
Але ў прадзім’і я.

Я у душы сваёй
　　　　　прытулак даў каханню,
Але на кім спыніць
Мне выбар свой?
І ўсё ж маё
Адбудзецца вянчанне,
Пад музыку ці не —
　　　　　з няўхільнаю зімой.

Для кожнага і ўсіх
　　　　　ёсць ісціна старая:
Каб ўніз упасці —
Лезем угару.
Для нас жа і за нас
　　　　　прырода ўсё стварае —
Вясну, прадзімак і —
　　　　　для кожнага пару.

## Удзячнасць

Прымі, жыццё, маю падзяку
За святы,
Цяжкасці,
Блуканні.
За тое, што я, часам, плакаў,
За расставанні і спатканні.

Прымі, жыццё, паклон сыноўні,
Я змалку быў табой натхнёны,
Я — ад маладзіка да поўні,
Быў і ў бядзе ў цябе ўлюбёны.

Круціў, віхурыў час шалёна,
Спрабуючы мой лёс на ломкасць.
А гэта лепш, чым крочыць сонна
Цераз штодзёння нерухомасць.

Я жыў, а гэта многа значыць,
Любіў зямлю, імкнуўся ў неба.
І ўсё ж прашу я мне прабачыць —
Я часам жыў не так, як трэба.

## Перад дажджом

Аб нечым марыць
    ціхі дзень застылы,
Ўдыхае з асалодай
    летні пах.
Шырока разгарнула
    неба крылы,
Ажно за далягляды іх размах.

Клён, нібы падарожнік
Адзінокі
Стамлёна голле
    апусціў уніз.
А вунь і хмара
    раздзімае шчокі
Для ўсіх рыхтуе, пэўна,
    свой сюрпрыз.

А неба край
    дарогу саступае,
Пускае хмару
    пад сваё крыло,
Бо дожджыка
Якраз і не хапае,
Каб страпянулася усё
І ажыло.

# Адзінак прывілеі

Смяяцца над сабой —
адзінак прывілеі,
У большасці —
Смяюцца над другімі.
Абапал першых —
значных спраў алея
І далягляд здзяйсненняў
Перад імі.

Яны прызнаюць шчыра —
і гэта сімвалічна,
Што тут памылка іх,
А не чужая.
І над сабой іх жарт,
іх смех самакрытычны,
Іх у вачах другіх
Не прыніжае.

Другія раздзімаюць
сваё «нішто» старанна,
Іх вартасці
з рэальнасцю ў разладзе.
Вышукваюць і ў годным
вакол сябе загану,
А самі век жывуць
У заняпадзе.

## Нас шмат

Ідзе з кійком бабуля,
Наперадзе — клады.
Мінулі вёсны, гулі,
Знасіліся гады.

Як хутка час ружовы
Мяняе колер — жуць!
Ёй, дваццаці б гадовай
На выгляд свой зірнуць.

Тады такога жуду
Ці вынесла б яна:
— Няўжо такой я буду?
Не можа быць! Мана!

О, часу выскалянне
Ах хрэсьбін да смярцей.
За цемру ночы — ранне
Заўсёды карацей.

А я? Каб я з юнацтва
Убачыць сёння мог
Гады — маё «багацце»,
Што хутка зваляць з ног.

Каб я адтуль убачыў
Зімы на скронях след
Са смехам я б адзначыў:
— Ну й пень стары!
Ну й дзед!

Мне б хтосьці пракалякаў:
— Дык гэта ж твой партрэт.
Не толькі б я заплакаў,
Я б роў на цэлы свет…

Падзяка, час, за літасць,
І мудрасць тут твая —
Нас паступова, скрытна
«Спяліш» ад «а» да «я».

У нас самаправерка,
Як сонца праз туман.
Глядзімся мы ў люстэрка,
У свой самападман.

І бачым што? Каго мы?
Аўтапартрэт там наш —
Знаёмы й незнаёмы
Пражытага калаж.

Мы ў старасці адчулі,
Што сперадзі — сцяна.
Віват, з кійком бабуля!
Нас шмат — ты не адна.

## Шчырасць

*Івану Саверчанку*

Як грэе душу
　　　　чалавечая шчырасць,
Які гэта дзіўны
　　　　дарунак для нас!
Адразу ж знікае
　　　　сучаснасці прыкрасць
І верыцца —
Лепшы наперадзе час.

На жаль, гэта шчырасць
　　　　між нас не паўсюдна.
Між сонечных дзён
　　　　ёсць і шэрыя дні.
І хочацца шчырасці нечай
Прылюдна
Аддзячыць, уласнай дадаць цеплыні.

Яна узмацняе духоўныя сілы
І веру вяртае,
　　　　й душы маладосць.
Без шчырых людзей
　　　　апусціліся б крылы —
Паклон табе, Бог —
　　　　у жыцці яны ёсць.

# Інтрыгі

Паўзуць яны ў жыцці па дну,
Інтрыгі непублічныя.
Адна налазіць на адну,
Як пліты тэктанічныя.

Яны не ведаюць зусім
Ні каяння, ні літасці.
Агіднасць лёгка сеяць ім,
Іх небяспека ў скрытасці.

Такі інкогніта-прэзент
Рыхтуюць непрыкметныя
Дзялкі —
І рушаць лёсы ўшчэнт,
І плямяць душы светлыя.

## Стаю зачараваны

Застаўся тлумны горад за спіной,
Ні ў чым не вінаваты,
Ды нямілы.
І вось я з ёю і яна са мной
Сядзіба —
Хата, сад і плот пахілы.

Зіхцяць далёкіх зорачак агні,
Загадкава,
Прывабна,
Безупынку.
Таемная чароўнасць цішыні
Трымае маё сэрца у абдымку.

Стаю зачараваны…
Мой ты Бог!
Якая прыгажосць, нібыта сніцца!
І ўсё ж ступаю ў хату праз парог,
Каб з ёю прывітацца,
Пакланіцца.

## Чалавек слова

Сказаў сваёй абранніцы я ў вочы:
— Я пра сваё нязгаснае каханне
Магу распавядаць і дні, і ночы,
Усё жыццё —
Ад рання і да рання.

Я быў заўсёды чалавекам слова,
І тут не падкачаў, прызнанні роіў. —
Ўвесь дзень да ночы,
Заўтра ўсё нанова,
І нават ноччу пра адно і тое.

Калі ж нямала часу так мінула,
Пачуўся яе голас неласкавы:
— Што чалавек ты слова, я пачула,
Пайду шукаць лепш чалавека справы.

# Дамавіны і калыскі

Аб’ездзьце,
Абыдзіце нашы вёскі,
Куды б ні прывялі вас
Пуцявіны,
Убачыце адно —
Як старасць дошкі
Рыхтуе для сябе на дамавіны.

І вас туга атуліць —
Адназначна,
І сэрца ў небасхіл упрэцца нізкі.
І здзівіцеся,
Што нідзе не бачна,
Каб хтосьці ладзіў
Для дзяцей калыскі…

## Для каго я пішу?

*24 кастрычніка пахавалі Косціка*

Для каго я пішу?
Няма Косціка брата,
Пераводжу паперу дарма.
Вы, у большасці ўсе —
вочы — шкло, вушы — вата,
Сэрцы ўвогуле —
ёсць ці няма?

І кладуцца радкі
сіратліва, гаротна,
Між мінулым
і будучым між.
Каб не вера ў духоўных
радкоў бессмяротнасць,
Я б уздвіг
на паэзіі крыж.

25.10.2017

## Вочы ў вочы

*Да майго 75-годдзя*

Для сваёй перамогі
не бачу прычын —
Іх аж семдзесят пяць,
пэўна, будзе падмога.
Іх аж…
Пэўна, што будуць яшчэ —
Я адзін,
Я адзін, а іх многа,
значыць іх перамога.

О, я супрацьстаяў,
як я быў маладзей,
Вочы ў вочы глядзеў,
налягаў грудзі ў грудзі.
Не баяўся ні іх,
ні шматлікіх падзей,
Я — ні кроку назад,
перамога мая толькі будзе.

Я не думаў, што поспех
мяне абміне,
Ды яны паступова
хінуць дзень да ночы —
Дагінаюць мяне,
даціскаюць мяне,
Іх аж семдзесят пяць —
я адзін, вочы ў вочы.

## А дзе плады?

Не, гэта і не вынік,
не, гэта і не споведзь...
Што мне жыццё дало?
І што я даў яму?
Заблытанасць гадоў
мне сэрца непакоіць —
Штó я ў жыцці? Хто я?
Адказ сумненні роіць,
Адказ незразумелы розуму майму.

Што тычыцца жыцця,
Яно дало нямала.
Ці ўсё я заслужыў?
Ці меў на ўсё правы?
А тое, што яно
з маленства лёс ламала,
Упэўнены, жыццё
мяне выпрабавала,
Удзячны я яму —
я выжыў, я жывы.

Мы прагнем у жыццё
пусціць глыбей карэнне,
Каб, напаткаўшы ноч,
не знікнуць ў нікуды,
Хоць зерне захаваць —
і я не выключэнне,
Карэнні, крона ёсць,
а дзе яны, плады?

## Не горшыя, чым я

А я нічога не баюся,
Вось толькі аднаго —
Таго,
Што ў лёсе Беларусі,
Чыім быць сынам ганаруся,
Не застанецца нічагусі
Ад лёсу ад майго.

Што лёс мой
Згіне пустацветам,
Бы ў чэраве дзіця.
Не думаць
Не магу аб гэтым
Цяпер,
Ў адзін канец з білетам,
Напрыканцы жыцця.

Быць ці не быць? —
Лягло на шалі,
І спадчына мая…
Што я!
І да мяне знікалі,
Хто ў працы век свой векавалі,
Не горшыя, чым я.

## Год 2017

Год адыходзячы —
Хутчэй ідзі ты прэч,
Ты шмат прынёс трагічнага.
Даволі!
Матэрыяльны груз
мы скінем з плеч,
А вось душэўны боль з душы —
Ніколі.

Але, з календара
сыйшоўшы, ты
Усё ж пакінеш след,
трагедый поўны.
Згараюць у мінулае масты,
Яно ж штодня
крывавіць усё роўна.

Ды што такое
кожны год для нас?
Умоўны, як і ўсё,
адрэзак часу.
Ён кропля многіх кропель,
што праз час,
Няўмольна
Перапоўніць лёсу чашу.

Ён рупіцца…
Ці рупімся ўсё ж мы,
Каб спаленае,
аднавіць, загаціць,
Каб потым,
напярэдадні зімы,

Сябе, жыццё
ці год абвінавацíць.

Год адыходзячы…
Ты мне прабач,
Што адбылося —
ты не вінаваты
Жыццё ідзе —
хоць смейся ці хоць плач,
Былі і будуць з намі
святы й страты.

## Карысны дзень

Пакарміў я небаракаў,
Галубка і вераб’я,
І бяздомнага сабаку —
І катку прынёс прысмаку,
Дзень пражыў карысна я.

Да бяздомных я рухавы,
Сэрца іх не абміне.
Пэўна, за такія справы
Доўжыць Бог гады мае.

Мала ў шанцаў раўнапраўя
І ў бяздомных — бачыць Бог.
Колькі іх уратаваў я,
Колькі ўратаваць не мог.

Быццам рвеш нядолі путы,
Паляпшаючы ім лёс…
Я і сам на іх пакутах
І выхоўваўся, і рос.

## Няпрошаныя госці

Нястомны госць
і нежаданы — смутак,
Любым надвор'ем,
летам і зімой,
Аблюбаваў
Жыцця майго закутак,
Апанаваў абсяг
душэўны мой.

Са мною ён —
і ў працы, і ў застоллі,
Апошні час жыцця
бярэ ў палон.
На раны ўсе мае
не хопіць солі
Ў такога нават карніка,
Як ён.

Жыццё, я бачу,
давярае чуткам,
Што выб'е клінам клін.
А так ці не?
Па смутку лупіць зноўку
новым смуткам,
На справе ж,
б'е чарговы раз па мне.

Хоць госць са мной,
аб чым мне з ім гутарыць?
Чакаю моўчкі,
быццам я адзін,

З якога боку
зноў жыццё ударыць
І ў сэрца мне заб’е
чарговы клін.

Мы ўсе ў жыцці
залежым ад кагосьці,
Хто творыць суд над намі —
Бог ці час?
Пайшлі б вы вон,
няпрошаныя госці,
Душэўны боль і смутак —
прэч бы вас.

# Дзіцятка ў пясочніцы

Зара на шчочках,
Іскаркі у вочках,
Дарослая
Руплівасць у гульні…
Дзіцятка з шуфлікам
штось ладзіць у пясочку.
Ты — промнік светлы
ў нашай мітусні.

Зірнуць табе б
у будучыню з сёння,
А з будучыні —
ў гэты светлы дзень
Заўважыць ты змагло б,
як лёсу промні
Святлом адорваюць
і утвараюць цень.

З пясочніцы твой шлях —
у казку мараў,
У быль станоўчых
і ліхіх падзей.
А колькі будзе
сонечнасці й хмараў,
Здзяйсненняў
І няздзейсненых надзей.

Шлях па жыцці
цікавы і суровы
Па ім —
Уперад толькі, не назад.

Лёс будзе
чорна-белы і ружовы
І ад цябе
залежыць будзе шмат.

Шлях па жыцці —
выпрабаванняў школа,
Па ім ты мусіш
да канца прайсці.
Ты у маленстве —
пад крылом анёла,
Будзь пад аховай Бога
У жыцці.

## Часовасць

Прасмакаваўшы
Час свой малады,
Прасвяткаваўшы
Лепшыя гады,
Нарэшце набываем
Розум новы
І разуменне —
Кожны з нас
Часовы.
Часовы, як і ўсё
У гэтым свеце,
Як нават
Чалавецтва на планеце.
І, зразумеўшы гэта,
Хтосьці з нас,
Спяшаецца,
Застаўшыйся ў нас час,
Ператварыць у рад
Здзяйсненняў значных,
Пражыць для ўсіх з карысцю —
Адназначна,
Што прапусціў калісьці —
Наверстаць
Й грамадзянінам
Паважаным стаць.
Другі, хто зразумеў
Сваю часовасць,
Кіруе след жыццёвы
Ў тупіковасць,
Маўляў,
Не буду сеяць і араць,
Расці быльнёг!

Ўсё роўна паміраць.
Няхай яно
Гарыць усё агнём —
Вось так і дажывае —
Адным днём.

---

Ці скажа хтось:
— Не буду сёння есці
Таму,
Каб не перапсаваць яды?
Бо заўтра могуць
Роўненька занесці
Мяне,
Нагамі ўперад на клады.

## Над часам

Трагедыя прыйшла…
Дзень-два — яна ў мінулым,
Яна — штодзень, штодзень —
далей ад нас.
І з часам адчуваеш
сэрцам чулым,
Што раны ёсць,
якіх не лечыць час.

Наадварот —
глядзяць у сэрца страты
Асэнсаванасцю,
Маштабнасцю бяды —
Што надыйшоў канец
сямейным святам,
Што ні з бацькамі,
Ні з сястрой,
Ні з водны братам
Не ўбачышся —
правёў іх назаўжды.

Прысуд жахлівы і —
я з ім сам-на́сам,
І цягнуцца
Выпрабаваннем дні,
Бяссільны час,
бо гэты боль над часам,
І ён пускае
ў сэрца карані.

# Гітара

Стаіць гітара
у куточку сумна,
Як сціплы сябар,
завітаўшы ў госці.
Мы з ёй,
Даволі весела і шумна,
З канца ў канец
прайшлі па маладосці.

Сярэдзіна дваццатага стагоддзя…
Квітнелі моладдзю
тады ўсе вёскі,
Сярод якой
Былі заўсёды ў модзе
Запальныя гармоніка галоскі.

І раптам я,
тады блазнюк вясковы,
Прыдбаў гітару,
быў з ёй неразлучны.
І гэты інструмент,
для вёскі новы,
Асвойваў —
І асвоіў самавучна.

Спяваў я і
для слухачоў сямейных,
Быў і ў вяскоўцаў
Запатрабаваны.
А ўжо ў канцэртах,
важных самадзейных,

З гітарай быў на сцэне —
цвік праграмы.

Ператварыў я
ў прыгажосць забаву,
Злавіць Жар-птушку
аказаўся здольны.
Тады прыдбаў
у межах вёскі славу,
Быў на слыху
і ў вёсках навакольных…

Агеньчыкі жыцця
смыляць між жару,
Дзесяцігоддзі мне
прынеслі стому,
Зацерушылі пылам і гітару,
І непатрэбны
Гітарыст нікому.

## Наступны дзень

Наступны дзень мой —
грош табе цана,
Што паспрыяеш мне ты —
мала веры.
Надзеі, мары ўсе мае —
Мана,
Задумкі, мэты кволыя —
Хімеры.

Ёсць і да вас,
мінулага гады,
Пытанні —
быў я у нястомнай сіле
Рухавы быў калісьці,
Малады,
Вы ж маладосць
у сёння не пусцілі.

Заместа светлых мар,
нагналі хмар,
Рэаліі жыцця,
заместа казкі.
Гадоў старых
я сёння уладар
І неўладар былога
з вашай ласкі.

І сёння да сябе
папрокі ёсць —
Мяняў я лёгка
«сёння» на «учора»,

Мяняў на ўцехі
лёгка маладосць,
Свой час мяняў
на «па калена мора…»

Як слёзы,
ў небе зорачкі зіхцяць,
Загушквае мяне
мой месяц — ліпень.
Наступны дзень,
пакуль я буду спаць,
З запазухі
Няўдачаў камень выкінь.

## Спіс

Нявырашаных спраў
узяў у рукі спіс,
Які ад году ў год
само жыццё складала.
Прабег па ім вачамі
я знізу ўверх — і ўніз,
О, вочы бедныя мае!
Ў іх цёмна стала.

Я ж крэсліў ўслед штораз,
Што зроблена,
Штогод,
Я ж столькі нарабіў,
я ж столькі наварочаў!
А я ж пераадолеў
без ліку перашкод,
Ні ад ніводнай мэты
не адступіў, не збочыў.

Праблемы, як заўжды,
ў штодзёння на куце,
Адной — па галаве,
а пяць — як штык, гатовы.
Жыцця ўсё менш і менш,
а спіс расце, расце,
Як гідра ў сто галоў,
а сам — аднагаловы.

А сам — з адным жыццём,
якому свет — тунель
Што без святла ў канцы —
і сёння, як і ўчора.

Хоць хутка карабель
мой напаткае мель,
А спраў з усіх бакоў
невырашаных — мора.

Даўно ўжо я з нябёс
спусціўся на зямлю,
Цярэбіць злыдзень-час
маіх гадоў алею.
Няхай не ўсё зраблю,
а спіс свой аднаўлю,
Хоць хутка паміраць,
а жыта ўсё ж пасею.

## Веча

Вялікі тэрмін Бог дае,
Каб мы
Не толькі працавалі,
Святкавалі.
А ў час свой —
ад вясны і да зімы,
З уласным «я»
сябе ж абмеркавалі.

Бо сам сабе —
заўжды сячэш з пляча,
Бо самасуд нам —
ісціна святая.
Ад паражаючага
ад яго мяча
З памылак нашых
галава злятае.

Як важна
Ў вочы зазірнуць свае
І ў іх убачыць
гонар чалавечы…
А хтось, прабачце,
на сябе плюе
Й сябе не кліча
да сябе на веча.

## Засцярога чалавеку

Так ідзе здавён, здаля:
Мудрасць — спадчына народа,
Шут — вышэй за караля,
Ўвосень дзень — карміцель года.

Сам сябе не вельмі ўзнось,
Ў люстра зазірне не ўсякі.
Час — ён гаспадар, не госць,
Рэвізуе нам адзнакі.

Калі цесна на зямлі,
Нас бяда ў зямлю кіруе.
Не згубілі, а знайшлі,
Нехта плача, хтось святкуе,

---

Ў прымаўкі не для забаў
Чалавечы род адвеку
Мудрасці нямала ўклаў —
Засцярога чалавеку.

## Памяць

За няспыннай,
Штодзённай працаю
Наша памяць з відна да відна.
Непатрэбную інфармацыю
Паступова сцірае яна.

Мы таксама
Ў архіўных паперынах
Сартыроўку праводзім і шмон.
Састарэлае й пераправеранае
Мы спакойна выкідваем вон.

Й памяць часу,
Яна старанная,
Нас прасейвае — хто ёсць хто?
Нецікавае й адпрацаванае
Не пакіне сабе ні за што.

# Мінулагоднія карані

Паэт я не настолькі дасканалы,
Каб прысвяціць сучаснасці радкі.
Дый сам я не сучасны, а адсталы,
Я толькі у мінулым гаваркі.

Я пра яго пішу,
               няхай не складна,
Затое святамовай тых часоў.
Не разразаю повязь безаглядна
З мінулым вастрынёй сучасных слоў.

Я ведаю —
Пішу я нецікава
Для тых, хто ў новым часе на куце.
Але ж, ад году ў год,
               ад веку ў век атава
З мінулагодніх каранёў расце.

## У тым «было»

Тое, што было —
Яго няма...
Ў тым «было» —
 й апошні брат мой Косцік...
Першы снег —
Пароша,
Бель,
Зіма,
Брат са стрэльбай,
 я за ім, як хвосцік.

Косцік быў няспынна-гаваркі,
Ды і мой язык
 мянціў нямала.
Ўсе зайцы
І ўсе цецярукі
За вярсту ад нас
 давалі драла.

Мы палі тапталі,
 лезлі ў лес,
Ладзілі прывалы з асалодай.
Што дзічына!
Вабіў сам працэс,
Еднасць душаў
 з матухнай прыродай.

Піск сініцы,
Дзятлава тук-тук,
Мы ўспрымалі, як жыцця дарунак.
Косцік быў юнак,
 а я — блазнюк,
Мелі мы гадоў маленькі клунак.

Той, юнацкі,
Нашых душаў жар
Нас яднаў і па жыцці не стынуў...
Сёння —
На душы гадоў цяжар,
Над якімі — гмахі успамінаў.

Косцік адышоў
у іншы свет,
Свет яго цяпер —
мае ўспаміны.
Свет яго — і вершы, ён паэт,
Вершы, што
Пасля сябе пакінуў.

І цяпер,
Па сцежках тых гадоў
Я іду адзін
у сэрцы з братам.
І паміж непаслухмяных слоў —
Боль пякучы:
Ў чым ён вінаваты?

Залатым пяром не апісаць
Свет яго добразычлівы,
Чысты.
Будзе ён з былога выкрасаць,
З лёсу Кастусёва промні-рысы.

## Ачышчальная споведзь

Грашыць мы можам столькі,
Колькі хочам,
Сярод віна,
Жанчын,
Садомаўскіх начэй.
Мы ведаем —
Калі ў грахоўнасць збочым,
Трэба імчаць да споведзі хутчэй.

І нават грэх вялікі
Стане смешным
І спавядаюцца усе
Нізы й вярхі,
Бо поп — ён чалавек,
Таму таксама грэшны,
Ён адпускае ўсе нашы грахі.

## Самападман

Без веры жыць не варта,
Бязвер’е, як туман.
І веру я упарта
У свой самападман.

Я ў марах — лепшай долі
Шчаслівы уладар,
Хоць ведаю — ніколі
Не здзейсніць марных мар.

Рэаліяў няўдачы —
У твар мне свой ашчэр.
І сэрца па-дзіцячы
Хінецца да хімер.

Нявер’е для здзяйсненняў,
Для мар узнёслых — крах.
Я — лепей летуценнік,
Чым я — бяскрылы птах.

## Мінус і плюс

Творчы вечар «Тытана»…
Проч усіх і ўсяго,
Я на вечар пазваны,
Як калега яго.

Псеўданім гэткі гучны
Выбраў ён, як маяк,
Хоць і піша дакучна
Абы што й абы як.

Выступленні паросіць
Будуць там лізуны
Будуць тое узносіць,
Ў што не вераць яны.

Не адзін там эпітэт
Захлынецца ў хвальбе.
Ды і сам з апетытам
Ён ухваліць сябе.

*

Ісці ці не ісці —
задачу вырашаю,
Хоць ведаю,
дзе дрэвы, а дзе пні.
Ды чую, як мяне
канапа запрашае:
— Ты лепей
Адпачні ад мітусні…

— Магу пацвердзіць я,
цікавага там мізер,
Духоўнага —
Увогуле там нуль. —
Раптоўна падтрымаў
канапу тэлевізар,
— Нятворчым
І хаўрусным тхне адтуль…

*

Я іду ўсё ж на вечар
І з душы скінуў груз,
Бо у кожнай сустрэчы
Ёсць і ў мінусе плюс.

## Надзея

Я ведаю —
Пішу ў шуфляду,
Чытаць хто будзе?
І гэта думка горай чаду,
Яна страшней любога яду —
Не правасуддзе.

Жыццё —
Яно з праблем і тлуму,
Ці ж тут да слова?
І ўсё ж між мітусні і шуму,
Мо прачытае хтось ад суму
Ці выпадкова?

## Ісціны насенне

Ў трагедыях, жалобах —
не толькі болю джала,
Ў іх простай ісціны
затоена насенне:
Як радасцям сваім
мы радуемся мала,
Як скупа цешымся
ў шчаслівыя імгненні.

Будзённае жыццё,
яно таксама свята,
Калі над ім бяды
не віснуць хмары,
Калі не паляць сэрца
агнём пякучым страты,
Калі пяшчоцяцца штодня
душы абшары.

Калі ж нам праз парог
увальваецца гора,
За ім і слёз і ляманту —
Бяздонне,
Мы горка думаем —
эх, як было учора,
Якое шчасце —
нам бы яго сёння…

## Невядома

Абрыс туманны лесу,
як міраж,
Ліецца з небасхілу
сум ружовы.
А крыху воддаль —
клёнік, нібы паж,
Які заўсёды услужыць гатовы.

Што тут прыдумаў вечар
За гульню?
Чым вы́клікаць
збіраецца здзіўленне?
Ён прыцемак, нібыта даланю,
Працягвае усім —
да пабачэння!

Сцямнела хутка —
вось і ўвесь сюрпрыз,
Хінецца да зямлі
спакой і стома.
Вунь, сіганула зорачка уніз,
Ці загадаў што вечар —
Невядома.

## Дасканаласць

Нібыта час ліе
пад ногі мне алей,
І хоць я шмат прайшоў,
а зробленага маласць.
Імкнуся я да мэты,
Яна далей, далей —
Хімерыць і міражыць
Дасканаласць.

Яна — і мэта мэт,
яна — душы маяк,
Яна — ва ўсім, ва ўсіх
павінна быць асновай.
Няўжо магчыма жыць
і думаць абы як,
Лічыцца
Чалавекам напалову?

# Пазаўвагай

Цікавы самы зборнік вершаваны,
Калі у пыле на паліцы тоне,
Ён, як мудрэц,
пазбаўлены пашаны,
Ён, як свабодалюб,
які ў палоне.

І вокладкі каркасам дамавіны
Сціскаюць шчыльна
Думкі,
Рыфмы,
Строфы,
І аўтар сэрцам згас,
не без прычыны,
Нібы распяты на крыжы Галгофы.

А колькі пазаўвагай
кніг славутых —
Сучаснасць дорыць ім сваю грымасу.
І ўсё ж калісьці
Пыл з іх будзе здзьмуты,
Іх вартасць прычакае свайго часу.

## Намаганні

Каб жыць мне сёння,
выжываў я ўчора
Зразаючы свой лёс
у кроў ад путаў.
Ў жыцці я ролю меў
і без суфлёра
Чытаў па-свойму
маналог пакутаў.

Каб жыць мне сёння,
я не жыў калісьці,
Цягаліся мы з беднасцю за грудзі.
Ці шмат было
з майго ілба карысці,
Што біўся у сцяну да правасуддзя?

Каб жыць мне заўтра,
сёння іншым чынам
Жыву і поўню
творчай долі чашу.
Усё, што Бог мне даў,
як зерне, кіну
Для новага жыцця
у глебу часу.

## Прачынанне

Сцяною непралазнай
лес узнік,
Які пакуль не прасвятліўся зранку.
Там цішыню ганяе
соек крык,
Ды дзяцел шле
у новы дзень марзянку.

Зайсці ці не зайсці
ў абдым яго?
Бо бачу я —
ён здзіўлены нямала,
Быццам пытае:
— Ты прыйшоў чаго?
Вось мне цябе
тут толькі не хапала.

І ўсё ж ступаю
па імху між дрэў —
Вавёрачкі, стрынаткі злева, справа.
Прачнуўся лес,
разгледзецца паспеў,
Пазнаў мяне
і зашумеў ласкава.

## Лепшыя гады і дні

Мяне складана й вопытнаму воку
Ў тусовачнай заўважыць мітусні.
І не таму, што дзесь стаю я збоку,
Ў бывалага тусоўшчыка ў цяні.

Мяне няма тут —
                    вось у гэтым справа,
Самаўлюбёнасцю не хворы я.
Сярод самацікавых — нецікава,
Сям'я без аднадумства — не сям'я.

Таму вачэй няшчырых пазбягаю
І еду да вясковай чысціні,
Да рэчкі,
Луга,
Поля,
Бору,
Гаю,
Дзе лепшыя прайшлі гады і дні.

# О горад!

О горад!
Як вулкан, непрадказальны.
На небе сонца,
　　　　　　між дамамі цень.
Твой кожны кут —
　　　　　　у мітусні вакзальнай,
Твой кожны дзень —
　　　　　　нібы апошні дзень.

Выходзіш з дому,
　　　　　　а ці прыйдзеш зноўку?
Даеш у чэрствасць
　　　　　　з жорсткасцю нырца.
Падобны год жыцця
На стометроўку,
Гадзіна ў чэргах —
　　　　　　ка́ра без канца.

І нават ноч —
　　　　　　нярадасны гасцінец,
За вокнамі —
　　　　　　машын сірэны, крык.
Ідуць гады,
　　　　　　ты — гораду чужынец,
Не родны й ён,
　　　　　　хоць да яго прывык.

О горад!
Сябраваць з табой —
Прынука!
І хоць у вёсцы
　　　　　　ўсе мае тылы,

А разбярэшся —
вось якая штука,
І ў горадзе —
Жыцця майго вузлы.

Каб развязаць мне іх,
не хопіць часу,
Патрачу хоць
апошнія гады.
Перапляліся
Пуцявіны нашы
Ў адным напрамку,
пэўна, назаўжды.

# Сэрцу падалося

Мне на прыродзе дыхаецца вольна
І сэрцу міла краявіды бачыць.
Я на прыродзе —
Пець і плакаць здольны
Сівых гадоў слязамі, па-дзіцячы.

Яна сваёю шчырасцю святою,
Сваёю беззаганнасцю ад века,
Мяне ўздымае над самі сабою,
Ўва мне мацуе годнасць чалавека.

Я з ёй сваёю шчырасцю таксама…
Я стаў раптоўна,
            бы з зямлёю зросся —
Бяжыць, малому мне,
            насустрач мама,
І я бягу, махаю ёй рукамі —
Эх, зноў нікога…
Сэрцу падалося.

# Прыліў-адліў

Далёка я
Ад мора-акіяна,
А што ж штарміць так
лёс неспадзявана?
Прыліў трагедый,
хвалі бед нязваных,
Адліў гадоў,
мне Богам дараваных.

Прыбой душэўных ран
ледзь з ног не валіць,
Вунь непрыемнасці шукаюць,
дзе б прычаліць.
Адліў надзей —
далей, далей а сушы,
І чайкі ў небе,
як памерлых душы,

Пранізліва крычаць,
як страт хвіліны,
І раняць сэрца,
быццам успаміны
Прыліў-адліў
Я ў цэнтры сутыкненняў.
І з кожным днём
жыцця ўсё меней, меней.

І ўсё страшней
прыліўныя накаты,
І з кожным годам —
кожны вал — дзявяты.

А вось адлівы
дні й гады гартаюць
Няўмольны час,
няўмольна сілы таюць.

Зноў новы вал
пагрозліва грукоціць
І на мяне няўхільна
коціць, коціць.
Я на мяжы стыхій
пражыў нямала,
І колькі помню —
штылю не бывала.

## Свая чароўнасць

Праменіў небасхіл
блакітным вокам,
І сонейка пяшчоцілася —
Цуд!
Ды хмарнасць пачарнелая здалёку
Знянацку разам з ветрам —
тут як тут.

І вось ужо ўладарыць навальніца,
Між хмараў раптам
грымнуў гром, зароў,
Ды навальніца хутка праімчыцца,
Як і улада ўсіх уладароў.

У навальніц усіх адно —
Раптоўнасць,
Яны — то тут,
то зноўку не відны.
У іх усё-ткі ёсць
свая чароўнасць,
Горш дождж за навальніцу абкладны.

## Застоллі

О як люблю я
запрашаць сяброў
У тлум застолляў
з творчых іх запечак,
Дзе пасля трэцяй
закіпае кроў,
І пляшкі спраўна
«не шкадуюць дроў»
У полымя шматтэматычных спрэчак.

І пасля трэцяй —
мы адна сям’я,
Пасля чацвёртай,
нашы сходкі — святы.
Амбіцыёзнасці застольныя і я,
Амаль у рукапашнай —
пасля пятай.

Хоць у канцы
мы творым шуму шмат,
І вольна-творчы
пратакол парушан,
Не абыйсціся нам
без гэтых свят,
Без нашых расслабонаў
І аддушын.

# Ганебная хвароба

Сучаснае сяброўства —
без сяброў,
У зносінах —
Бязрадасная радасць,
Ў размовах —
шмат няшчырасці між слоў,
На тварах —
без прычыны нелюбоў,
У поглядах —
затоеная зайздрасць.

Хацеў бы я пачуць
адказ ад іх:
Жыццё шчыруе,
а па кім жалоба?
Найперш б'е зайздрасць
вам самім пад дых…
О зайздрасць чорная
і нелюбоў да ўсіх —
Усіх народаў
І часоў хвароба.

І ўсё ж вядома,
што здавён-даўна,
Пазбаўлены
Ганебнае хваробы,
Хто ў творчасці,
ў жыцці — велічыня,
Сапраўдныя,
Не штучныя асобы.

Сапраўдны сябр —
не мае ён цаны,
Сяброўства з ім —
жыцця ўзнагарода.
Але — быць вінаватым
Без віны —
Гаркоціна,
Далёкая ад мёда.

Я без сяброўства
з пэўнае пары,
Век дажываю
Ў адзіноты процьме.
Я Бога згодны ўзяць
сабе ў сябры,
Ды ён мяне сабе ў сябры
Ці возьме?

# Свабода

Свабодзе прысвяціў я
вольныя рулады,
А нада мной —
пералічу наўздых —
Начальнік — то адзін,
то пяты, то — улады,
Калі прызнацца шчыра,
як без іх.

А потым над маёй
свабодаю ўладарыў
Спакусаў незлічоных
цэлы спіс.
Найперш гарэлка — горш
не знойдзеш кары,
Я лез уверх —
яна цягнула ўніз.

Затым — праз грошы сум,
А ці ж дзівос тут нейкі?
Іх у мяне
Ніколі не было.
На хлебе эканоміў,
страсаючы капейкі,
Вышукваў іх,
хоць кажуць, грошы — зло,

Адсутнасць іх у нас —
хвост за сабою цягне,
Бо плодзіць грошай недахоп
Даўгі.

За кошт пазыкаў жыць —
　　　　па вушы жыць у багне
Бязвыйсця,
Уніжэння
І тугі.

Ёсць і яшчэ адна
　　　　пагроза нашай волі,
О, бедныя мужчыны ўсіх часоў!
Ў гісторыі ніхто
　　　　не абмінуў ніколі
Пагрозу гэту,
　　　　што псуе нам кроў.

Што так узносіць нас,
　　　　як казачныя мары,
Каб садануць
　　　　каварствам у спіну —
Дарунак Бога й д’ябла,
Жаночых путаў чары,
Свабоды дух ім ведае цану.

Прыйшоўшы ў гэты свет,
　　　　аб волі марыць кожны,
І ўсё-ткі спатыкаецца не раз.
Свабодным нарадзіцца —
　　　　пры ўсім пры гэтым можна,
А жыць свабодным?
　　　　Я ўжо даў адказ.

## Усё ў норме

Гасподзь уплёў мой лёс
у клуб дарог,
Шляхоў зямных
і незямных, магчыма,
Каб разабрацца я,
каб выблытацца мог,
Каб я ў жыццё глядзеў
душы вачыма.

Чым меней
Засталося мне ісці,
Тым болей і далей ісці хачу я.
Чым горш мой слых
мне служыць у жыцці,
Тым вытанчанней болей
сэрца чуе.

Мінулыя гады —
цяпер мой тыл,
Які праменіць шчыра
З маладосці.
Заўважыў я —
чым менш фізічных сіл,
Тым дух мацней
і больш здаровай злосці.

Разблытаў я
клубок дарог даўно,
Не заблудзіўся,
ў лабірынтах лёсу.

Жыццё і ўдачай
              зорыла ў акно,
Й «фігураю» з трох пальцаў
Мне да носу.

Заблытаны й складаны
              лёс быў мой,
Ўсё новае, што будзе,
              ён прыгорне.
І сёння я —
              на фінішнай прамой,
Дыханне,
Пульс
І ціск —
Усё у норме!

# Узвышша

Ў свеце гор і пагоркаў
Ёсць многа,
Ды не дадзена нам абмінуць
Найадзінае ўзвышша, з якога,
Можна ў будучыню зазірнуць.

Там, на ім —
Нашы думкі і сэрцы,
І яму кожны сіл шмат аддаў.
Тое ўзвышша мінулым завецца,
Дзе вытокі ўсіх будучых спраў.

Мы захоўваем
Ў сэрцы падзяку
Тым гадам, што прайшлі ў барацьбе.
Вось адкуль можам даць мы адзнаку
Папярэднікам,
Часу
Й сабе.

## Слава!

Ты адзін у нас,
Вялікі Божа,
Верай кананічнай,
Зоркай новай.

Праваслаўны я,
Ў Касцёл заходжу
Наталіцца
Беларускай мовай.

Мова беларуская
Няміла
Для Царквы,
Што выклікае скруху.

Каталіцтва
Мову прытуліла —
Слава
Ойчу,
Сыну,
Святадуху!

## Дэвіз для ўсіх

Дзёрзкі,
Жорсткі,
Дзелавы,
Прадажны —
Вось ён, часу
нашага партрэт.
Ў гэтым часе —
я такі бадзяжны —
Цесна сэрцу
ў свеце неабсяжным,
Не бязмежны —
для душы сусвет.

Мне бы крылы…
Я зямлю й без крылаў
Абляцеў,
Аб'ехаў
Ўсю яе.
Лёс свой спрытны,
як каня, узмыліў,
А калі крыху ён
Абяссілеў,
Што далей? —
пытанне паўстае.

Што далей?..
Вяртанне да вытокаў! —
Вось дэвіз,
для ўсіх і для мяне.

Як бы хто
ні лётаў найвысока,
А у родны дом
апошніх крокаў,
Ратавальных крокаў
Не міне.

Могілкі…
Туга..
Бацькоў магіла…
Востры боль
дзесяткі год пячэ.
Шмат куды
мяне жыццё насіла…
«Шмат дзе быў я! —
думка апаліла,—
А ў зямлі?..
Не быў я там яшчэ…»

# Геній

Ціхі вечар,
Рэчка,
Песні зыкі,
Пах чаромхі,
    велічы пячаць…
Толькі творца,
    талентам вялікі,
Змог гэта ў імгненне аб’яднаць.

А калі
Да гэтых вось імгненняў
Далучыць
Узнёсласць салаўя,
Ды ружовасць неба —
    значыць геній
Тут папрацаваў,
    сцвярджаю я.

Ах, што за цудоўная карціна!
Вунь з-за лесу
    выткнуў месяц рог
Й заміргалі зорачкі нявінна —
О! Дык вось хто гэты геній —
Бог!

# Амаль рэквіем

О бедныя вы,
будучыні дзеці!
Вас зрабаваў
Тхнічна-жорсткі час…
Але ж былі яшчэ
на гэтым свеце
Жывыя казкі,
зніклыя да вас.

Жывыя казкі —
матылькі-вясёлкі
Былі, як краскі
у блакіце дзён.
Ўзляталі з пальцаў
Божыя кароўкі,
Хрушчоў паважных
чуўся барытон.

Стракозы
У паветры рух спынялі,
Затым знікалі
ў адзін міг з вачэй
А летам, як загадкава спявалі
Цыкады ў цемры
сцішаных начэй.

Яны падпарадкоўваліся музе,
Што ім дала Прырода
Альбо Бог.

А як з запалам
		конікі на лузе,
Бы акрабаты,
Пстрыкалі з-пад ног.

А колькі птушак…
		Спеваў іх не чутна,
Усіх перамалоў
		бяздушны век.
І сонца пазірае
		вокам мутным,
Як ён усё знішчае,
Чалавек.

Вы, ўросшыя ў экраны інтэрнэта,
Ужо не дзеці,
		а рабы яго.
Знямелай пусткай
		робіцца планета —
Яно і чалавецтва —
		хто каго?

Пустым
Й не свята месца не бывае,
Нясвятасць
Дапінае ў кожны кут.
Прырода гіне,
		ўсё з яе знікае,
А жорсткасць і бяздушша —
Тут як тут.

2017 г.

## Экран

Сяджу ў вагоне поезда,
	акно, нібы экран,
Мяняюцца на ім,
	карціны і сюжэты
Даволі сумныя,
	хоць тузані стоп-кран,
Ды новы «фільм»
	такі ж будзе, як гэты.

Лясы, палі, лугі,
	канца не бачна ім,
Пасёлкі, вёскі, рэчкі,
	слупы, нібыта спіцы…
Такое ўражанне,
	як быццам мы стаім,
А міма нас
	кудысьці ўсё імчыцца.

Такое вось уражанне…
А ёсць яшчэ адно —
Усё заканчваецца,
	позна альбо рана.
Жыццё імклівае,
	таксама, як кіно,
Сачыць ледзь паспяваеш
За экранам.

## Утульнасць

Я ў неба зорнае гляджу —
ў таемнасць гэту,
І адчуваю еднасць з невядомым,
Дзе зорка кожная,
нібы акно сусвету,
А за акном за кожным —
хтосьці дома.

І мне здаецца —
нехта назірае
Адтуль за мной —
ўзаемна і удзячна.
І хатка на Зямлі,
мая старая,
З запаленым акном
камусьці бачна.

І мне ад думкі гэтае утульна —
Ў бязмежнасці я ў цэнтры,
а не з краю.
Сусвет вялікі —
дзіўны дом агульны.
Я зоркам ветліва
рукой махаю.

## Светаўспрыманне

У маім стане пазайздросціш болю,
Якога лёс
Пакуль што не прыдумаў,
Бо тое, што было
          яго ніколі
Не пераўзыйдзе
          час пакут і сумаў.

Што меў я за душой,
          з душою разам,
Пад гмахам незваротных страт
Счарнела.
А тое, што туды усе мы ляжам —
Кагосьці суцяшала альбо грэла?

Абстрактнасць думак
          грэе нас часова,
Салодкі сон —
          ды прыйдзе прачынанне.
Бязлітасна рэальнасць і сурова
Мяняе наша светаўспрыманне.

## Люстэрка

Карысна паглядзецца
ў люстра часу,
Не бойцеся —
люстэрка не крывое.
Яно спаўна праявіць
сутнасць нашу
І не дадасць нам
зло й дабро чужое.

У люстры часу —
лёсаў нашых хвалі,
То ўверх, то ўніз —
мы ім па-свойму спадчым.
Калі ў пясок
мы галаву хавалі,
Замест яе
Другое месца бачым.

Ў жыцці мы вытыркаем
спраў параднасць,
Наш, гонару мундзір —
на нас прылюдна.
Але й памкненняў нашых
Непрыгляднасць
Ў люстэрку часу
знойдзем мы паўсюдна.

Душы усмешку
й жорсткасці грымасу
Мы клалі
Ў завірусе дзён на шалі.

О, каб мы зазіралі
ў люстра часу,
У нейкі час
сябе б там не пазналі.

Прыйшлі мы не святымі
ў свет наш Боскі.
І ўсё-ткі сэрца
святасцю жывое…
Папраўце на хаду
хаця б прычоскі —
Не бойцеся,
Люстэрка не крывое.

## Небарака

Адзін шпачок застаўся на зіму,
Магчыма, прыхварэў у час адлёту.
Тут, з вераб'ямі, весялей яму
У час зімы перачакаць мярзлоту.

Такое не аднойчы ўжо было —
Шпак ад сваіх — не-не — ды адбіваўся.
Мароз трашчаў,
Вакол мяло, гуло,
А чорны камячок з зімой змагаўся.

Даводзілася кожны дзень туды,
Дзе ён, гасцінец ратавальны несці,
Толькі б мароз не нарабіў бяды,
Толькі б было што бедалагу есці.

Вось так і зімавалі — ён і я,
Ды ён пакутваў болей, небарака.
Прыход вясны чакаў я удвая —
І за сябе, і ўсё-ткі больш за шпáка.

## 30-га (бяс)снежня

Час і жыве, і крочыць незалежна,
Ніхто яго спыніць не зможа руху.
За вокнамі трыццатага (бяс)снежня,
А снегу і зімы у нас — ні духу.

Туман учора,
Сёння дождж слязлівы,
Няўтульнасць і пахмурнасць невясёлая.
Плюс пяць тэмпература, як на дзіва,
Зямля, як дзеўка на панэлі, голая.

На носе Новы Год,
За ім — Каляды,
Недаспадобы ўсім такія зімы.
А птушкі і бяздомнікі ўсе рады,
І вельмі рады я за іх і з імі.

30.12.2017

## Тут і там

Бадай, што не было
            такога дня,
Каб думкі мне
            не апалілі сэрца.
Я памяццю
Хінуся да каня,
Душа нязменна
            да яго хінецца.

І чым далей я
            ад тае пары,
Выразней бачу
            ў сваім лёсе коней.
Яны —
Маёй душы уладары,
Ўладараць непахісна
            ў ёй і сёння.

Шэсцьдзесят год —
            нямалыя гады,
Што час ад сёння
            ў маладосць гартае.
Яднанне нашых душаў —
Назаўжды,
Любоў да коней
            ува мне — святая.

І мне шкада
            круты сучасны час,
Які далей
Ад шчырых душаў крочыць,

І маладых,
І інтэрнэтных вас,
Вас, хто каню
не зазірне у вочы.

І мне не вельмі
ўтульна сёння тут,
Я адхінаю
Новы час бяздушны.
Там коні —
незвычайны шчыры цуд,
Утульнасць там
і дзіўны пах канюшні.

## Даражэй за ўсё

Прылічваць да святых
каго заўгодна можна
Й маліцца на абжытыя куты.
Галоўнае, не тых,
хто калісь жыў бязбожна,
Не трэба нам
Такі нэасвяты.

Хай Покрывам святым
глядзяць на нас іконы,
Кліч, Вера,
праз святой Царквы парог.
Не будзем закранаць
царкоўныя каноны,
Пад імі мы,
над імі — вечны Бог.

Мы з да й,
паслякастрычніцкага часу,
Хоць круць, хоць верць,
у нас агульны ген.
І памятае ён
кіраўнікоў іканастасы,
І чуе подых лепшых перамен.

Пайшлі даўно ў нябыт
так званыя святыя,
Мы іншыя ўжо,
ды і іншы час.
І дзіўна, што ў жыцці
сучасным настальгія

Хоць зрэдку,
          але ўсё ж палоніць нас.

Святых мы настваралі
          у час, на волю бедны
Ды штось было
          святое сапраўды —
У чалавечнасць вера,
          душ чалавечых еднасць,
Цанілі даражэй за ўсё тады.

Без крылаў у душы
          не можа жыць ніводзін,
Акрыленасць вышэй за ўсё цаню.
Святое ў душы нам
          заклаў Гасподзь з народзін,
Не даць бы згаснуць
          гэтаму агню.

## Адзіная просьба

Ты сведка, літасцівы Бог,
Як я шмат год таму,
Ў жыццё пераступіў парог
І ўсё аддаў яму.

І нават на зыходзе сіл
І ў самы бедны час,
Ў цябе нічога не прасіў,
Каб цень не ўзнік між нас.

*

Час кіруе надзеі усе
              пад адхон,
Не шкадуе
Нічога й нікога
Парушаю напісаны
              мной жа закон
І звяртаюся
З просьбай да Бога.

Пахаваў шмат я родных
              і блізкіх сваіх,
Стратаў боль
              назаўжды ў маім лёсе.
Бачыў я, як балюча,
              ў пакутах якіх,
Паміраць ім усім
Давялося.

Колькі гора глынулі
яны пры жыцці
І ў вайну,
І ў гады сацзастою.
Перад смерцю хоць
ім бы палёгку знайсці
І памерці
Ў абдымках спакою.

Не, бязлітасны хтосьці
ім вынес прысуд,
Ці ж патрэбныя мукі ім тыя?
Толькі мама і тата
пазбеглі пакут
І памерлі у сне,
як святыя.

Вось і мне бы памерці
з усмешкай у сне,
Пад крылом няўміручае казкі.
Паспрыяй, Божа мілы,
у гэтым і мне,
Калі я заслужыў тваёй ласкі.

## Удзячнасць і абразы

Паклон табе, Гасподзь —
ты мне даеш магчымасць,
Падтрымліваць жывёлінак і птах,
Чый горкі лёс штодня
у сэрца прад вачыма,
Чый боль штодня
крычыць у іх вачах.

Дзялюся з імі я
«багаццем» захудалым,
Я не шкадую
Сіл сваіх і трат.
Ад іх я адчуваў
удзячнасці нямала,
А ад людзей пачуў
абразы шмат.

Марозам аж за дваццаць,
бязлітасным, знішчальным,
Я, перад тым, як есці,
Іх кармлю.
Мяне суседзі, пэўна, ужо
лічаць ненармальным
І шыкаюць мне ўслед,
а я цярплю.

Эх, гэтую б магчымасць,
якую сёння маю,
Ды мець бы мне
калісьці, маладым!

Я да бацькоў, бывала,
заскочу, завітаю,
Ды падтрымаць іх
не было мне чым.

Апошняе ім нёс,
страсаў усе капейкі,
Выкручваўся, як можна,
шмат гадоў.
Ці тваражок ім нёс,
альбо масол там нейкі,
Ды зверху клаў
ахапак цёплых слоў…

Я зноў іду да тых,
вядзёны сэрцам чулым,
Чыё жыццё пастаўлена на кон.
Бяздомнічкаў кармлю,
а думкамі ў мінулым —
Эх, дажылі б бацькі
да гэтых дзён.

## Адвечная загадка

Жыццё — загадкавасць такая,
Непрадказальнасцю палоніць.
Яно ўздымае, апускае,
То спыніць, то — уперад гоніць.

То сябар лепшы, закадычны,
То сабутыліць, то цвярозіць,
То так па мызе зубатычне,
Што крыўды боль душу марозіць.

То ўзбагачае нас духоўна,
То матэр’яльна абязгрошыць,
То дорыць спадзяванак поўна,
То безнадзейнасцю пустошыць.

То прыпяшчоціць нас спачатку,
Затым аттуліць неласкава.
Жыццё — адвечная загадка,
І з гэтым я жыву цікава.

## Ці не з сябе партрэт?

Адзін знаёмы мой
так апісаў дурнога,
Ў яго душу, ў паводзіны
зварганіў падарожжа,
Нармальны чалавек
падобнага нічога
І ні адчуць,
ні апісаць не можа.

Адкуль, падумаў я,
ўсе тонкасці знаёмы
Загадкава-псіхічнай,
недаступнай нам натуры?
За дурня каб казаць,
пэўна, трэба самому
Пабыць-пажыць
У гэтай самай скуры.

# Год сабакі

Год сабакі наступіў,
А колькі вас
Напладзілі мы бяздомных?
Мы — не час.

П’ём за вас
За вас закусваем усмак —
Сыта-п’яных
Не хвалюе лёс сабак.

На абразы у людзей
Сабачы нюх:
— У-у, сабака!..
А сабака ж лепшы друг.

Павучыцца б у сабакі
Нам адданасці
І сяброўству,
Й дзеля нас —
Самаахвярнасці.

## Не мінайце

Не мінайце маё адзіноцтва
Ўладкаванасцю лёсу свайго.
Не пазбегнуць нікому сіроцтва
І халоднай назолы яго.

Чаша радасцей
будзе ўсё-роўна
Хутка выпіта намі —
Да дна.
Ўсё што мелі,
Губляем раптоўна,
Адзінота — вось вынік! — яна.

Для сумеснага
з роднымі ўзлёта
І палёту —
Ў жыцці толькі міг.
Хто за тымі дзвярмі? Адзінота?
Не мінайце,
Пастукайце ў іх.

## У новых умовах

Жыці мушу я ў новых умовах,
У рэалій жыцця па абцасам.
І вакол больш
людзей выпадковых,
Чым правераных
«соллю» і часам.

Іх, надзейных,
Правераных — мала,
Гэта — лёсу дарунак бясцэнны.
З кім з’еў солі пуды,
іх не стала,
Ім ніколі не будзе замены.

Што ж датычыцца
новых знаёмых,
Тут зусім празаічная справа:
Што у іх за душой —
Невядома,
Што ўва мне —
ім зусім не цікава.

## Імгненнасць часу

Каб адчуць, як імкліва
маланкавіць час,
Трэба ад мітусні
Разагнуцца,
Трэба могілкі продкаў
наведаць хоць раз,
І удумліва,
Шчыра жахнуцца.

Толькі тут, дзе, здаецца,
застыў кожны міг,
Адчуваеш
Шалёнасці часу.
Ён пранёсся над лёсамі,
выкрасліў іх,
Ён імчыць і праз
прывіднасць нашу.

Толькі тут летапісец
засмучаных дат,
Жыў… Памёр…
У імгненне гартае.
Ён — уперад ні кроку,
вяртае назад,
Ён — і кат наш,
і памяць святая.

Вунь стары пахаваны,
а быў малады,
Малады ж —
Састарэў у магіле.

Ну а колькі дзяцей
паглынулі клады,
Колькі тут
Пакаленняў-імгненняў!

Час імчыць —
нам здаецца стаіць
Ці паўзе —
Дзень прайшоў,
будзе новы нязменна.
Хоць з жыцця адыходзім
мы ўсе па чарзе,
Паступова —
І ўсё-ткі — імгненна.

## Злучок

Заканчваю пісаць я
　　　　том дзевяты —
Са мной маіх бяссонніц абярэг.
Вакол нямых сцяна,
　　　　іх зубы сцяты,
Ёсць я ці не?
Маўчыць натоўп калег.

Сказаць па-праўдзе,
　　　　не для іх пішу я,
Хоць быў бы рады іх увазе я.
Час кожнага паэта
　　　　голас чуе
І шматгалоссе —
　　　　мы адна сям'я.

І крыўдна,
Што мы кожны паасобку,
Сяброў падтрымка —
　　　　творчых сіл штуршок.
І чым між кожным творцам
　　　　ставіць кропку,
Няхай нас лепей
　　　　звязвае злучок.

## Вера

Калі я не ўзлячу,
Нібы падранак,
Ўздымі мяне з зямлі
Сваім крылом.

Я стану ноччу
Позна альбо рана,
Ты нада мною
Узыйдзі святлом.

Калі маім
Задумкам і намерам
Не суджана трапляць
У рытм падзей,

Змагайся і рабі
Што можаш, вера,
Не пакідай жыцця,
Мацуй людзей.

## Зямля мая адзіная

Мой родны край,
зямля мая адзіная,
Са мной заўжды,
як у чароўным сне.
Усё, што я заву
сваёй Радзімаю,
Усё, у чым я ўвесь
і што ўва мне.

Чым я і ўзнагароджаны,
І ўражаны,
Й пераканаíы ў чым —
на тым стаю.
Усім табе,
мой краю, абавязаны,
Прабач мне
запазычанасць маю.

# Алюр

О як хацеў бы гэтага не чуць.
Ды чую за сабой азарт пагоні.
І з-пад падковаў часу іскры — жуць!
І ноч да воч, як пісталет да скроні.

Я вырываўся ўперад што ні раз,
Вось-вось і стане ціха за спіною.
Але губляўся сіл маіх запас
І з новай моцай гнаў алюр за мною.

О як складана —
Ўсё ў сядле, ў сядле,
Адчайна лёс мой па жыцці галопіць.
Я спералзі пакуль…
Пакуль, але
На колькі сіл маіх астатніх хопіць?

## Пытанні

Якое найскладанае пытанне?
Складана на якое даць адказ.
Напрыклад:
Што ўкладаем мы ў каханне?
І што ў адказ яно ўкладае ў нас?

Што для жыцця жыццё
без жыццямэты?
І што за мэта без агню жыцця?
Якія нераскрытыя сакрэты
Ў адказах без сакрэту раскрыцця?

Ў пытаннях гэтых шмат і правакацый,
Прысутнічае тут і штучны цэнз —
Абаранілі мноства дысертацый,
Выкручваючы ў словах стыль і сэнс.

Пытанняў шмат задаў
і стала сумна,
Ды плюньце вы на вопыты мае.
Пытанні трэба задаваць разумна,
Каб разумеў і той, хто задае.

## Спіраль

Мне у маленстве думку ўклалі,
Не, не да сэрца, да вушэй:
Жыццё імкнецца па спіралі —
Віток — вышэй,
Віток — вышэй.

Пазней і сэрца сэнс адчула
Тых слоў, гукаючых здалёк.
Жыццё свядома і прачула
Рабіла за вітком віток.

І гэтак шмат гадоў руплівых,
Уверх імкнуўся, як ніхто.
О колькі іх, віткоў шчаслівых —
Віток!
Віток…
Віто-о…
Віто-о-о…

Адкрыў я раптам на спіралі
Звышнепрыемнасці сюрпрыз:
Мне ж у маленстве не сказалі,
Што прывядзе спіраль уніз.

## Думкі

О думкі!
Вы́, як жабракі з кійком
Вакол мяне…
Чым вас магу адорыць?
Я бы ад вас і сам
сыйшоў тайком,
Каб толькі з вамі
ўпотай не гуторыць.

Дык не! Куды шнурую я,
Туды і вы —
Перажыванні,
Развažанні,
Тэмы.
На хворую
З здаровай галавы
Шматлікія піхаеце праблемы.

А як было калісьці, —
мой ты Бог!
Агонь быў у маіх
і ў вашых жылах.
Імчалі ўдалеч вы
з апошніх ног —
І вы, і я —
мы лёталі на крылах.

Не, не патрэбен быў
вам мой дагляд,
Вам, неасушных,
хмельных думак чаркі.

Былі вы, як
празрысты далягляд —
Нідзе ні аблачынкі
і ні хмаркі.

Перакруціў,
Перамагаў нас час
І перапоўніў
ціхім сумам сэрца.
Я сёння —
Пазбягаю, думкі, вас,
Але ад вас ужо
нідзе не дзецца.

## Прыгажуня і пачвара

З іх шлюбу
Дзівіліся вёскі наўкола
Алена была
Брыдкаватая знешне.
Затое —
На зайздрасць астатнім Мікола,
Такі ўжо прыгожы,
А ўнутраны грэшны.

І ўсё ж адгуло,
Так ці гэтак вяселле,
І «горка» было,
Пэўна, ноччу салодка.
Ды колькі ні пі,
А надыдзе пахмелле —
І ладзяць жыццё
Малады і малодка.

Алена руплівая —
Зранку да ночы,
Ласкавая,
Нібы малое цялятка.
Лагодзіць Міколу
Угодліва ў вочы,
Сям'і прысвячае сябе
Без астатку.

Да сонца устаць,
Позна легчы ёй рупіць,
На працу і з працы —
Дадому нязменна.

Дзе трэба,
Дзе й не,
А свякрусе саступіць
І мамай яе называе
Алена.

Міколу сям’я хвалявала,
Ды мала.
Быў ёй процілегласцю —
Увачавідкі,
Яна — прыгажосцю
Унутранай ззяла,
А ён, прыгажун,
Выглядаў побач
Брыдка.

Ды й слова на вочы
Ёй крыўднае кіне,
Бывалі абразы,
Нярэдка — папрокі.
А сам —
Нібы той манекен
На вітрыне,
Ад люстра ні кроку,
Стаіць рукі ў бокі.

Каб ёй паказаць,
Хто галоўны, ён гыркаў,
Яна — ўся ў сямейным парадку
І працы.
Няпростая справа —
Двух лёсаў прыцірка,
Тым больш, калі знешне
Ім цяжка раўняцца.

Калі адсалодзіўся
Месяц мядовы,
Бацькі да Міколы
Падселі без злосці:
— Сынок,
Ты з Аленай сябе параўноўвай,
Далёка табе
Да яе прыгажосці…

Упэўнены —
Прыйдзе яна да парадку
Ў адносінах
Гэта сямейная пара.
А ў вёсках завуць іх цяпер
Ўціхамятку,
Без злосці, але —
Прыгажуня й пачвара.

## Між імі

Ўсе творы з душы
на паперу ляглі
(Што мог я рабіў у жыцці)
Як зерне, якое павінна з зямлі
Для будучыні прарасці.

Хоць я дажываю,
Надзея жыве —
Наперадзе шмат гучных дат,
Бо столькі задумак яшчэ ў галаве,
Ды й тэм забароненых шмат.

Душа забаронаў не ведае.
Не!
А розум? Спытайце ў яго.
Няпроста між імі
выкручвацца мне,
Паэзіі ж горай таго.

## Суддзі

Ці ёсць хто ў свеце
Непадсудны з нас?
Ха-ха!
Якое смешнае пытанне.
Мы ўсе!
Усе судзімыя, й не раз,
Жыццё не толькі свята —
Й пакаранне.

Вялікі дар
Падараваны нам,
І небяспечны падарунак —
Слова!
Мы на жыцця анкету
Столькі плям
Набрудзілі —
Няхай і выпадкова.

Спачатку было слова —
Гэта так.
Адораны з нас кожны
Гэтым цудам.
Ды так
Мы карыстацца сталі ім,
Вялікім цудам (не сваім)
Сваім.
Што слова стала
Нашым самасудам.

Ёсць словы —
Труцяць лёсы, нібы чад,
Ёсць брудныя,
Як па зубахануча.

Страшней любых учынкаў
Словы — яд,
Бязлітасна нас раняць
І балюча.

Спрадвек уласны
Нашых слоў запас,
Павага да яго
Ці непавага,
На суд публічны
Выстаўляюць нас —
І нашы суддзі —
Самі,
Людзі,
Час.

# Шчасця шмат мы маем

Многа было шчасця,
ды яго лічылі
За будзённасць часу,
што цячэ звычайна.
Шчасця шмат мы мелі,
ды яго ўспрымалі,
Як зіму і лета,
нібы дні і ночы
У клопатах штодзёння,
ў мітусні жыццёвай.
Сёння бачу маму,
сёння тату бачу,
Хіба ж гэта дзіва?
Й заўтра гэта будзе.
І не толькі заўтра,
а штодня, заўсёды.
І браты з сястрою,
што ні дзень — у сіле,
Што ні дзень — жывыя —
Добры дзень! Дабранач!
Можна сустракацца,
Тэлефанавацца.
Хоць штодня, хоць болей,
Хоць у дзень святочны,
нават без нагоды —
Гэта ж вельмі проста,
ўсё ад нас залежыць,
Шмат сустрэч вясёлых,
шумных шмат застолляў.
Хіба ж гэта шчасце?
Хто аб гэтым думаў?

А жыццё, хоць дзіва,
ды яно — не свята —
Ў кожнага свой клопат,
і сям'я, і дзеці,
І жылі складана,
так, як выпадала
І ўсё бліжай, бліжай
да мяжы жалобнай
Пра якую думаць
сэрцы не хацелі
Ад якой употай
душы халадзелі.

*

Час свой скарысталі
ўсе мы — так ці гэтак,
Былі мама, тата,
Ў іх аж дзевяць дзетак.
Усяго хапала
ў кожным нашым лёсе
І бяды нямала
зведаць давялося.
Гора гаравалі,
ды адно аднога
Духам мацавалі
з дапамогай Бога.
Неяк нечакана
старасць завітала
Час прыйшоў складаны —
і бацькоў не стала.
А за імі «роем»,
хутка без затрымкі,
І браты з сястрою —
вось вам і «дажынкі».

Сонца стала чорным
праз такія страты —
І не ўбачыць маму,
і не ўбачыць тату
Ні пачуць, ні убачыць
родных не удасца,
Сустракацца з імі —
колькі было шчасця!

*

Ёсць у сэрцы мара,
ёсць ў думках мэта,
Ёсць душы узнёсласць —
ці ж не шчасце гэта?
Цяжкасці адолеў,
перамог напасці,
Ты жыццю патрэбен —
ці ж гэта не шчасце?
Ты патрэбен людзям,
й да людзей патрэба,
Шчасце бачыць сонца,
шчасце бачыць неба.
Шчасце ў сіле крочыць
па зямлі-матулі,
Шчасце іншых чуці
й каб цябе пачулі.

# Святло

О-о! Няпроста ісці па жыцці,
Пажадана —
Не проста ісці,
Сэнс жыцця — не губляць, а знаходзіць,
Мэта мэтаў —
Сябе ў ім знайсці.

Лёгка есці і піць за сталом,
Трэба мужнасць ісці напралом
Да вяршыні —
Хай недасягальнай,
Сцены цяжкасцяў.
«Мацаць» ілбом.

Вунь, святло за апошняй сцяной,
А жыццё?
А жыццё за спіной.
Каб убачыць святло сярод ночы,
Плоцім мы дарагою цаной.

## Свядома даў дарогу

Не-не, ды і святы
з прамой дарогі зверне
Не варта без разбору
нам дакараць яго.
Трапляецца, хоць зрэдзь,
святой няпраўды зерне
У творах, што выходзяць
і з-пад пяра майго.

Няпраўды зыбкі цень
вам зрок не намазоліў,
Бо тыя, хто чытаў,
адчуюць, хоць «не ў лоб»,
Ў радках і між радкоў
а ісціны тут болей,
І колькі б не было —
яе ўсё ж недахоп.

Чарговы том пішу,
дзевяты — дзякуй Богу,
І праўды светлы сэнс
кладу ў радкі і між.
Святой няпраўдзе я
у творы даў дарогу,
Каб толькі на галоўным
не быў пастаўлен крыж.

## Мудрасць вякоў

Дзіўная рэч —
            нібы прывіды-здані,
Ў век дваццаць першы
            прыйшлі праз вякі,
Каб запаліцца
            у цемры, ў тумане
«Вочы» пра-продкаўшчыны —
Маякі.

Буры
І дзевяцібальныя хвалі,
Горы шалёнай,
            закіплай вады —
А маякі
Шлях для ўсіх асвятлялі,
Колькі яны
За вякі ўратавалі
Вас, мараходы,
            ад гіблай бяды!

Сёння —
Касмічная сувязь, радары —
Вочы і вушы,
            паўсюдна, лічы.
А маякі,
Нібы светлыя мары
Свецяць і свецяць
            бяссонна ў начы.

Свеціць маяк,
ды і душы ён грэе,
І не спяшаецца
выйсці ў запас.
Што б ні казалі —
святло не старэе
Нават і ў самы
«прасунуты» час.

Вось і ў паэзіі,
ў творчасці кожнай,
Пераклікаецца мудрасць вякоў —
Можна быць талентам,
лепшым быць можна,
Ўсё ж не абыдземся
Без «маякоў».

Нам яны свецяць
святлом небывалым,
Веліччу лёсаў
вядуць за сабой,
Каб абыйшлі мы
бяздарнасці скалы,
Каб не разбіў нас
аб рыфы прыбой.

## Другое дно

Няпісаны закон
жыве між нас адвеку,
Што ёсць такі закон,
у сведкі клічу неба.
Ён асабліва сёння
вядомы чалавеку:
Каму не трэба мы —
і тыя нам не трэба.

Што можа горшым быць?
Замкнулася тут кола.
У кожнага ў душы —
у гонар «я» малебен
Ўзаеманепатрэбных,
хоць пруд прудзі, наўкола,
Бо кожны толькі сам
сабе ў жыцці патрэбен.

Хвароба ўсіх хвароб —
сцвярджаю я адказна,
Пануе сярод нас,
карае ўсіх сурова.
У творчае сям'і
відаць найбольш выразна
Ўзаеманепатрэбнасць,
а гэта — тупіковасць.

Не дапамогуць нам
ні штучныя старанні,
Не пабратаюць нас,
разрозненых, гады.

А што каб адмяніць
               ўсе прэміі і званні,
Магчыма, гэта б нас
               палепшыла тады.

Балюча назіраць
               за сціснутымі намі,
Дыягназ, ён адзін —
               адзін на ўсіх даўно:
У кожнага ёсць свой
               запазухаю камень,
На жаль, нямала душ,
               дзе ёсць другое дно.

## Выключэнне

О не дай Бог,
Каб я радзіўся
Ў сучаснасці, з якой знаем.
Ні з кім я, пэўна б, не жаніўся,
Так і памёр бы бабылём.

Аб густу спрэчак не бывае,
Пра густ мы нечы — ні гу-гу.
Ўсё ж ён на лёсы уплывае,
На мой —
У першую чаргу.

Мне сёння густы вочы коляць,
Хоць не расплюшчвайся —
Мой Бог!
Гляджу я на дзяўчат,
На моладзь —
Каго б я ў жонкі выбраць мог?

Каго б я выбраць мог?
Нікога!
Хоць іх раскручвай на ўсе сто.
Яны не вабяць і старога
Сваёю штучнасцю.
Ніхто!

І мне сумуецца употай,
І я вяртаюся цішком
Да тых часоў,
Дзяўчат-пяшчоцін,
Прывабных —
Кроў — эх! — з малаком.

Глядзець на іх —
Не наглядзецца,
Так замілоўваюць душу.
І кожная пяшчоціць сэрца —
Той успамін, як скарб нашу.

Ёсць сёння моладзь —
Заглядзенне,
Хто упрыгожыць сумны баль.
І ўсё ж яны,
Як выключэнне
З агульных правілаў, на жаль.

## Пад пыл архіўны

Пайду з жыцця нікім незразумелы
І нават не прачытаны нікім
А я ж хацеў ляцець
над светам цэлым,
Калі ўжо ні над ім,
дык побач з ім.

А я сыйду ў нябыт
пад пыл архіўны,
Не закрануўшы сэрца нічыйго.
Час наступіў на мой
намер наіўны
І нават ногі выцер аб яго.

Чытаць сябе нікога не няволю,
За шчасце ж палічу, без гучных слоў,
Калі чытач хоць тысячную долю
Ўсё ж прачытае
з дзевяці тамоў.

## Незабудка

Абступіла моладзь дзеда,
Ўсе па слову — і бяседа
Паміж іх распачалася,
Пра падзеі ў нашым ча́се.
Але большасць вельмі жыва
Чуць хацела асабліва,
Як жылі-былі раней
Ці, як кажа дзед — даўней.
Ім пра паншчыну й пра пана
Дзед распавядаў старанна,
Пра калгасы, пра вайну —
Пра сівую даўніну.
Хтосьці з хлопцаў,
Як на ліха,
Запытаўся ў дзеда ціха:
— Вы з сівой далечыні,
Без сям'і і без радні…
Калі можна,
Ў чым тут справа,
Адкажыце — нам цікава.
Адказаў дзед не адразу,
Глянуў на хлапца-пралазу,
Заглыбіўся ва ўспаміны
Нібы той гусляр былінны,
Быццам ключ вышукваў годны
Ад шуфляды неабходнай.
Потым зацягнуўся дымам
І з таемным успамінам
Павярнуўся да цікаўных:
— Вось што, хлопчыкі!

Забаўных
І трагічных год нямала
Мая памяць захавала.
Я ж вам раскажу пра тое,
Што было…
Не, не са мною,
А з другім, такім, як я.
Спадзяюся, што мая
Памяць захавала штосьці
З той далёкай маладосці.
Слухайце — агучу думкі,
Гэта праўда,
Не прыдумкі.

*

Перад Богаўгодным святам
Ўсе — і хлопцы, і дзяўчаты,
І жанкі, і мужыкі,
Ў варажбе наб'юць аскому,
А затым, набыўшы стому,
Кладучыся спаць,
Употай,
З спадзяваннем і пяшчотай
Ў сне такое ўбачыць хочуць,
Каб пасля сканчэння ночы
Тое ўсё, у кожным лёсе
Без адкладвання збылося.
Ў ноч перад Калядамі
Сны загадваць рады мы.

*

Быў Якім высокі, зграбны
І душэўны, і прывабны,
Сінявокі, светла-русы,
Як і ўсе мы, беларусы.

Ён ўкладваўся ў пасцелі —
Ў цемру мары паляцелі:
«Эх, прыснілася б мне ноччу
Тая, у каторай вочы
Прыгажэй, чым зоркі ў небе
Вось такую жонку мне бы!
Каб была, як фея з казкі,
Каб зайздросцілі ёй краскі,
Каб заўсёды, дзе ні ступіць,
І ў мароз вясна наступіць
Ад дзявочае пяшчоты…
Марыў так Якім употай.
І хлапец, як, пэўна, кожны,
Агарнуўся сном трывожным.

*

У другой няблізкай вёсцы,
Ўпотай марылася Зосьцы
Каб у лёс яе дзявочы
Хлопец завітаў высокі,
Светла-русы, сінявокі,
І прывабны, і гарачы,
Той, каго у сне убачыць…
Мары прадсвяточныя,
Хлопцаў і дзявочыя,
Пэўна што, не без прычыны
Супадаюць нейкім чынам.

*

І прыснілася Якіму
(Без агню не будзе дыму)
Тая, нібы фея з казкі,
Прад якой на лузе краскі
Застываюць трапятліва,

На якую, як на дзіва,
З блакіту-бязадонніка
Пазірае сонейка.
І дзяўчына-таямніца
Сніцца…
А калі не сніцца?
А калі жывая недзе?..
Вунь яна, ідзе па снезе
У сукенцы, басанога,
Кліча, просіць дапамогі.
Але, дзе яна ступае,
Адступае снег і тае.
Ўсё-ткі ноч калядная
Й завіруха здрадная
Сёння пільна правяць балем.
І Якім з вялікім жалем
Разумее, што калі
Не дапамагчы дзяўчыне,
Стоміцца яна, загіне.
І, каб адагнаць бяду,
Крыкнуў ёй Якім: — Іду!..
Ён на ложку схамянуўся
Каб пабегчы — і прачнуўся.
«Я іду!» — гучала ў роце.
Хлопец у халодным поце
Ўстаў, зірнуў на двор з акна —
Ноч была, як дзень, віднá,
Зорачкі, як светлячкі.
«І прысніцца ж жах такі! —
Думка джаліла Якіма —
Добра, што ён пойдзе міма
І не спраўдзіць сон-каранне…»
Лёг і зноў заснуў — да рання.

*

Раніцай ляцелі з вёскі
Плач і нейкія галоскі.
Завіхурыла няспынна
Бегатня і мітусніна.
Што за гвалт святочным раннем?
І благое прадчуванне
Апякло Якіму сэрца
І нідзе яму ні дзецца
Ад жахлівых успамінаў
Калі ён сасніў дзяўчыну,
Ёй у сне не дапамог.
І Якім з апошніх ног
Хоць і быў даволі сонны,
Паімчаў, нібы шалёны
Да вяскоўцаў, што на полі
Плакалі над нейчай доляй.
Калі ён да іх падскочыў,
Жах яму зірнуў у вочы.
Тут, на снезе,
Ў полі чыстым,
Паміж гурбаў серабрыстых,
Быццам спала,
Як жывая,
Смерць знайшла дзяўчына тая,
Што Якіма ў сне гукала,
Й да яго ў начы блукала.
Ногі босыя, ў сукенцы —
Больш нічога на паненцы.
Выглядала неяк жудка
Побач з ёю незабудка,
Што прабілася з-пад снега,
Нібы сімвал абярэга.
І Якім, нібыта ў сне,

Закрычаў штосілы:
— Не!
Не павінна быць такое
Так, каб сэрца маладое,
Пражыло якое мала,
Раптам біцца перастала! —
Зноў крычаў Якім штосілы:
— Ты жыві!
Устань з магілы!
Ўстань!
Не крэслі нашы святы!
Я у гэтым вінаваты. —
Ён абняў халодны труп:
— Я прыйшоў!
Зірні!
Я тут!..
І пачуў… Ці падалося…
— Я цябе прысніла, Зося,
Абламала смерць мне крылы,
Позна ты прыйшоў, мой мілы.
Незабудачку сарві
І жыві!
Жыві!
Жыві!
Незабудкай стала я —
Я твая!
Твая!
Твая!

*

Закурыў стары нанова,
А ад хлопцаў — аніслова
Быццам бы знямелі ўсе.
Думка кожнага нясе

Ў час, калі няшчасце зведаў
Той, далёкі сябар дзедаў…
І хоць кожны ледзьве дыхаў,
Ачунялі ўсе паціху
Хтосьці, выдыхнуўшы цяжка,
Не паверыў:
— Гэта казка!
Пэўна, што ад сябра чулі,
Вы прабачце мне, дзядуля…
Дзед, без крыўды, без адчаю,
Адказаў:
— Я прабачаю
Вам сарказм і недавер.
А што вы скажаце цяпер! —
І, як доказу ў давес,
Ён запазуху палез,
І адтуль, з паперкі скрутку
Паказаў усім незабудку:
— Вось яна вам, кветка тая,
Век пражыў, яна ж жывая
Без вады…
Нібы каханне,
І ні сохне, і ні вяне.
Усё жыццё сваё паверце
Я нашу яе ля сэрца…
Хлопцы — кожны ледзь жывы,
Загулі:
— Дык гэта вы-ы-ы?
Ім расповед кроў марозіў…
Дзед устаў, абняў бярозу.
— А цяпер зірніце ўсе вы,
Пад якім сядзім мы дрэвам.
Тут і тлумача не трэба —
Пад бярозаю, што ў неба

Упіраецца прычоскай,
Дрэва — звязанае з Зоськай.
Тут, дзе смерць сустрэла рана,
Тут яна і пахавана.
Я тады, у памяць Зоські,
Пасадзіў вясной бярозку,
Дзе яна і векавала,
Ёй цяпер гадоў нямала.
Вось яна, адна на свеце —
І сям’я мая, і дзеці.
Тут, ля Зоські, ля бярозы,
Свя́ты ўсе мае і слёзы.
Я памру, напэўна, хутка,
А са мной і незабудка…
Без мяне, у безгалоссі,
Згіне і магіла Зосі.
Наляціць гадоў завея
І бяроза ссірацее.
Хлопцаў зноў, як падмянілі —
Слухалі, не гаманілі
Ўсе сядзелі нерухома.
А калі пайшлі дадому,
І хоць дзень ужо змяркаўся,
Пад бярозай дзед застаўся,
Неўзабаве ноч настала,
А як сонца завітала
Й новы дзень прыход адзначыў,
Дзеда больш ніхто не бачыў.
Знік кудысьці. А куды?
Так знікаюць дні, гады,
Знікнем гэтак з часам мы
Ў нікуды, у час нямы.

## Святотатство во спасение

*Рассказ попутчика*

Я ехал в поезде,
В купе нас было двое.
Попутчик мой
никак не мог уснуть.
И я не спал,
общение живое
Мне обещало скрасить
долгий путь.

Мы сели с ним за столик,
Закурили,
Вино открыли,
коль отпрянул сон.
Вот так —
Курили,
Пили,
Говорили,
Не любопытствуя,
кто я, кто он.

Когда я носом стал клевать,
Как клювом,
Ведь время зá полночь
шагнуло далеко,
Воскликнул он —
Хотите расскажу вам
Во что поверить,
Право, не легко.

Вначале слушал я,
глаза смежая,

С трудом противясь
    сладостному сну.
Но сон вспорхнул
    внезапно, улетая,
Рассказу подчиняясь
И вину.

Мне весь вагон,
    весь мир казался тесен
От слов услышанных
    в купе ночном.
Сюжет был
    неправдиво-интересен,
Я слово в слово
    расскажу о нём.

*

Он был ни богохульник,
    ни безбожник,
Был с Библией знаком
    «и вдоль, и вширь».
Вот почему
Сей молодой художник
Внезапно приглашен был
В монастырь.

Жил монастырь
    под сенью ореола
Молитвенно-монашьего
Труда.
И потому
Нога мужского пола
В обитель не ступала
Никогда.

Здесь женщина
с мужчиной не встречались
Случайно даже
испокон веков.
Был женский монастырь —
вы догадались,
Без пояснений
и без лишних слов.

Устои веры
в нем торжествовали
Из страха —
беспощадный гнев навлечь.
Блудницу здесь
найдете вы едва ли,
Готовую за грех
под розги лечь,

Ветшает всё,
не только жизни наши,
Земля, строенья —
всё не перечесть.
И этот женский
монастырь монаший,
Решил во всем
нарядность приобресть.

Двор прибирали
смирные монашки,
Белили келью каждую
И клеть.
Игу́менья — не медля,
без затяжки,
Решила своды
в росписи одеть.

Вот так художник,
как козел из сказки,
Был в огород запущен
На сей раз.
А в «огороде» —
юные монашки
И он, но под присмотром
старых глаз.

Работал он со страстью,
Вдохновенно.
А как иначе мог он,
ведь вокруг
Соблазнов столько —
И одновременно,
Потенциальных для любви
Подруг.

Он видел
За смиренностью покорной
Немую страсть,
что их к нему влекла.
Он зримо представлял
под рясой черной
Их белые,
Созревшие тела.

Что это так —
глаза их выдавали:
Чтоб рай познать,
и в грех готовы пасть.
Душа в огне —
и нет такой вуали,
Которая бы скрыла
плоти страсть.

Но Бог ведь ночи
создал для веселья,
Вручив огонь любовный
тем, кто жив.
И вот однажды
отворилась келья,
Влюбленного художника
Впустив.

Что было там?
Мгновения ли счастья?
Любви ли вечность?
Божья ль благодать?
Паденье ль в грех?
Полет ли юной страсти?
Пожалуй, сразу всё.
Зачем гадать?

О тайне той
мы знаем только малость,
Да думаем,
что под покровом тьмы,
Та келья
Не однажды отворялась —
И только Бог свидетель был,
Не мы.

*

Работы вел художник
к завершенью,
Соблюл канон,
изобразил святых.
Игуменья же
в полном восхищеньи

И от послушниц,
        и от фресок сих.

И все ж реальность
        ухмылялась кисло
Сквозь призму вечных —
        можно и нельзя.
Опасность над влюбленными
Повисла,
Бедой неотвратимою
Грозя.

Любовь порой
        не думает о главном,
Что время чувствам
        предъявляет счет,
Что тайное
        когда-то станет явным
И каждого
К ответу призовет.

Что не одна
        любовь нам сердце ранит,
Нередко —
        и последствия, увы.
Сначала в сети
        сладостно заманит,
Затем казнит
        жестокостью молвы.

Последствия
Тех сладостных мгновений,
Что бурно в келье
        двух влюбленных жгли,

Игуменью
повергли в исступление,
Исчадьем ада
из глубин земли.

Она с великим ужасом
Узрела
(Такое видеть и слепой бы мог)
Монашки чрева грех —
Любви итог.
И, видя округлявшееся тело,
В великом гневе крикнула:
— О Бог!

О небеса!
О Пресвятая Дева!
Я призываю
Праведников всех —
Да сгинут
от карающего гнева
Отступники,
свершившие сей грех!

Да будут же они
отныне вместе
Гореть огнем
негаснущим в аду!
За грех великий,
за попранье чести,
Безжалостно к суду ее!
К суду!

*

Монашка, ускользнув
от грозных судий,
Пришла тайком
к художнику, молясь.
— Судить меня публично
завтра будут,
На самом деле,
это будет казнь.

Расправиться с такой, как я,
легко им —
Меня ничком положат,
Обнажив.
И пустят на меня
монашек строем,
Тугие розги
в руки им вложив.

И каждая
Ударит под приглядом,
А нас здесь сотни —
карусель из розг.
И белый свет
покажется мне адом,
И кровью изойдет
душа и мозг.

И в этой
Карусели-круговерти
Придется мне кричать,
стенать и выть.

Жалея даже,
изобьют до смерти —
Что делать мне, любимый?
Как мне быть?

Надежды луч сегодня
тускл и тонок,
А завтра розги
просвистят — шабаш!
Я смерть приму,
но ведь во мне ребенок,
Он мой,
Он твой,
Он, видит небо, наш!

Суд надо мной
готовят оголтело,
Он и ребенку
станет судным днем... —
Она с мольбой
в глаза ему глядела,
А он о чем-то думал,
Но о чем?

— Осталась ночь…—
изрек художник глухо, —
Я отведу беду,
привлечь коль мог.
Ты будешь жить,
потерпит смерть-старуха
Свершу я грех…
И да простит нас Бог!

*

Ночь протекла
томительно и вяло,
Свет тусклый в кельи
проникал едва.
И утро
Неизвестность предвещало,
День не спешил
вступать в свои права.

Все были на ногах,
давно не спали,
Игуменья, монашки —
все как есть.
Готово было всё
в просторном зале —
Святое правосудье
или месть?

А вот и вводят грешницу.
Она же
Идет сквозь строй,
спокойствия полна.
И ни она, никто теперь
не скажет,
Кто искуситель —
Бог иль сатана?

Монашку подвели
к скамье дубовой,
Безмолвно положили
вниз лицом,
Готовясь
К экзекуции суровой,

К суду, что станет
              для греха венцом.

Тревожные мгновенья
Утро дарит,
Все взяли розги в руки,
Все в строю.
Но первою
Игуменья ударит,
Исполнив
Святомиссию свою.

Отбросив одеянья,
Обнажили
Несчастную
              от головы до пят.
Игуменью же
Словно подменили,
Она сперва
              отпрянула назад.

Она, глазам не веря,
              вся застыла,
Она — вершитель
              страшного суда.
И от ее
Карающего пыла
Мгновенно
Не осталось и следа.

Как можно было
              дивом не дивиться,
Таким, что мир
              не видывал в веках —

Лучился на спине,
на ягодицах
Лик Богородицы
с ребенком на руках.

Игуменья припала
На колено
(О торжества спасительного миг!)
Перекрестилась вдруг
самозабвенно
И Божьей Матери
поцеловала лик.

Закон вдруг стал
на сторону порока
Смертельный грех
освобожден от мук.
И у послушниц
от такого шока
Безвольно розги
выпали из рук.

И все монашки,
истязаний вместо,
Чего никто
не делал отродясь,
Опальной
Целовали «одно место»,
Благоговейно
перед ним крестясь.

Игуменья
явила всем смиренье,
И отчужденья
Рухнула стена.

Монашке были
вóзданы моленья,
И грех прощен,
и жизнь сохранена.

*

Попутчик,
Изложив рассказ умело,
Внимательно
воззрился на меня.
А я?
А я — сидел окаменело,
Свой ум и дух
услышанным казня.

Похоже, что витали
наши души
В сомнениях,
Ищá на них ответ.
Я, наконец,
молчание нарушил:
— Не верю я
Услышанному!
Нет!

Как анекдот,
как выдумка — возможно,
Как богохульство —
Бог ему судья.
Но чтобы так,
кощунственно, безбожно
Глумиться над святыней?
Против я!

Попутчик мой вскочил,
словами брызнув:
— Так вот, он,
инквизиции микроб!
А то, что нынче
не было б двух жизней!
По вашему —
неверующих в гроб?

Не нарисуй я
ночью той последней
На теле милой лик святой —
Для них,
Для матери, для плода,
Для двоих,
День порки б стал
Посмертною обедней.

Я б гнусным стал судьей,
не нарисуй я.
Нет — хуже!
Был бы Ирод во плоти. —
Затем в лицо мне
бросил, негодуя:
— Чтó больший грех,
казнить или спасти?

Реакции такой
Не ожидая,
Я с примиреньем
уравнял счета:
— Любовь есть к Богу,
есть любовь земная,
Пусть благоденствуют —
и та, и та.

Забудем, что ли,
ваш рассказ потешный,
Неужто же пустяк
рассорит нас?
— Так знайте же,
что я — художник грешный,
Тот, о котором слышали сейчас.

Попутчик не смолкал
ни на мгновенье,
Вращаясь
Возле носа моего.
— Я выбрал святотатство
во спасенье,
Бог видит —
во спасение чего.

Я робко перевел
наш крик в беседу:
— А где теперь
избранница тех дней?
Попутчик выдохнул:
— Вот я и еду,
Чтоб во́ссоединиться
в браке с ней.

Не только с нею,
но и с нашим сыном, —
Добавил он в конце,
смутившись чуть.
Я пожелал:
— Пускай он будет длинным
И полным счастья,
жизненный ваш путь!..

И под колес бессонных
перестуки,
Забыл я всё —
и свой далекий путь.
Попутчик же уснул,
уткнувшись в руки,
А я в ту ночь
никак не смог уснуть.

## Нерэальная рэальнасць

*Прысвячаю брату Сяргейку,*
*які памёр перад маім паяўленнем на гэтым свеце,*
*чыё імя перайшло да мяне*

Ў рэаліях жыцця
мы марым пастаянна
Аб нерэальнасці,
аб тым, чаго не будзе.
І па-дзіцячы верым,
што позна альбо рана,
Нам Бог здзяйсненні
паднясе на блюдзе.

Ёсць мара і ў мяне,
тым больш — жыццё на схіле,
А родныя —
Бацькі, браты і сёстры — у магіле.

Я не хачу ні грошай,
ні славы, ні бяссмерця,
Не трэба мне палацы
і горы залатыя.
Вярнуцца б хоць на дзень
да родных перад смерцю,
У маленства, калі мы
усе былі жывыя.

О, здзейснілася б мара —
не трэба больш нічога!
Я з гэтым кожны дзень
звяртаюся да Бога.

І дзіва — Бог пачуў!
Хаця чаму дзівіцца?
Бог чуе кожнага,
але яго — не кожны.
Калі штодзень у шчырасці
і святасці маліцца,
Не застанецца свет душы
Парожнім.

Маліўся шчыра я,
як вернік без двухкосся,
Гасподзь пачуў — і я
ў маленства перанёсся.

*

Мінулае стагоддзе…
Год страшны сорак пяты.
Год радасны для выжыўшых —
усё ж, вайна сканала.
Зямлянка.
Два мальцы гуляюць,
Побач — мама, тата,
Худыя, змардаваныя —
хапіла ім нямала.

Рэакцыя мая была,
як з правіл выключэнне,
А ці ж другою быць магла
у гэтае імгненне?

Я не стрымаў сябе, і крык
мае пакінуў грудзі:
— О мама, тата!
Міця, Косцік! Родныя браты!

Ды ад мяне бацькі мае
хіснуліся у спудзе,
А хлопчыкі за іх спіной
разінулі раты.

— Ўдвая сталей ты за мяне,
шаноўны чалавеча, —
Сказала мама, —
Эх вайна… І душы нам калечыць…

— Сярожа я! Сярожа! —
Свае я множыў шанцы, —
Сынок я ваш дзевяты,
апошні ваш, малодшы! —
Спыніла мама гоман мой:
— Сярожа — у зямлянцы.
Набегаўся і моцна спіць,
сыночак наш харошы.

І зразумеў сваю я
і Госпада памылку —
Не у тым я выглядзе прыйшоў
на гэтую пабыўку.

Амаль мне восемдзесят год,
а ім крыху за сорак,
І слова «мама» ад мяне,
ў іх выклікала стрэс.
Ў закаркаваную бутыль
я лез, нібыта корак,
Ў сям’ю, дзе ўсе напералік,
як самазванец, лез.

Я мусіў адступіць,
зрабіўшы ход зваротны —
Сказаў, што я вайной
знявечаны, гаротны.

Тут тата схамянуўся,
хоць сціплы быў з народзін,
Ён разважаў спакойна,
гучалі ж словы колка:
— Такі адкормлены, як вы,
з вайны ні йшоў ні водзін,
Ды й вопратка на вас
амаль з іголкі.

І маміна пытанне
лягло, як груз, на плечы:
— Дык што на спаленай зямлі
шукаеш, чалавеча?

Цяпер я, перад тым,
як працягнуць гаворку,
Зірнуў вакол,
агледзеўся без спешкі.
На месцы хат былых,
замест былых падворкаў —
Пячныя камяны
ды галавешкі.

Я быў тады малы,
дый й разумеў я мала,
І памяць гэты жах
мая не захавала.

Ад жаху я ў сябе
прыходзіў памаленьку,
Затым спытаў у мамы
з ціхім болем:
— А дзе сястра… Прабачце…
А дзе дачушка Жэнька?
А дзе цяпер
старэйшы сын ваш Коля?

Дзе ўсе, хто перажыў
вайны малох крывавы,
Хто падзяляў з дзяржавай
трагічны лёс дзяржавы?

Здзівіліся бацькі:
— Вы гутарыце гладка,
І ведаеце ўсіх нас,
блукацель выпадковы.
Кранулі сэрцы вы,
вы — чалавек-загадка,
Адкуль вы?
Хто вы?
Ў пошуках чаго вы?

Не мог я зварухнуць
сваёй застылай позы,
Камяк у горле быў,
з вачэй цурэлі слёзы.

Не мог язык крануць,
як ад страшэннай стомы
Ператварыўся дзень святы
ў святое пакаранне.

Ці ж мог я ім сказаць,
што мне іх лёс вядомы
Да смерці кожнага,
да дня іх пахавання.

Што Бог не іх — мяне
ў час жудасны заводзіць,
Што буду іх усіх
ў апошні шлях праводзіць.

Прашу у вас адно, —
я выказаўся слёзна, —
Не праганяйце прэч
адсюль мяне, прыблуду.
Пусціце пераначаваць
ў зямлянку, калі можна,
Не стану я назолай вам,
Замінішчам не буду.

Маё маленства, як і вас,
зямлянка прытуліла,
Душой мне будзе утульна ў ёй
і сэрцу будзе міла.

— Зямлянкі не шкада,
падлога ў ёй — зямліца,
І сцены ў ёй з зямлі, —
сказала мама важка,
— Няпроста будзе вам
між намі ушчаміцца,
Бо нам тут і самім
уладкавацца цяжка.

